



# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

12+

7 снежня 2018 года №49 (1232)


**Расклад цягнікоў па станцыі Маладзечна ад 9 снежня**

старонка 5

# Ці гатовы рэгіён да сезона хакея і канькоў

**Дзецям для зімовых забаў дастаткова снежнай горкі. А вілейскім пенсіянерам хочацца згуляць у хакей з адмысловай каробкай. На якіх катках рэгіёна можна пакатацца і нават згуляць у хакей, чытайце на 22-й старонцы.**



Фота Уладзіміра АСТАХНОВІЧА.



ISSN 1991–7155

Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/

## Будслаўскі фэст уключылі ў спіс культурнай спадчыны ЮНЕСКА

МЯДЗЕЛ

**Урачыстасць у гонар ушанавання абраза Маці Божай Будслаўскай унеслі ў спіс нематэрыяльнай культурнай спадчыны чалавецтва.**

28 лістапада Міжурадавы камітэт па ахове нематэрыяльнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА ў ходзе 13-й сесіі аднагалосна прыняў рашэнне аб уключэнні беларускага элемента нематэрыяльнай культурнай спадчыны «Урачыстасць у гонар ушанавання абраза Маці Божай Будслаўскай (Будслаўскі фэст)» у Рэпрэзентатыўны спіс нематэрыяльнай культурнай спадчыны чалавецтва, паведамляе прэс-служба МЗС Беларусі.

Будслаўскі фэст – гэта адзін з сімвалаў беларускай ідэнтычнасці, урачыстасць, якая адбываецца ў атмасферы ўсеагульнай павагі і сяброўства, аб'ядноўвае розныя групы людзей, незалежна ад іх рэлігійных поглядаў, сацыяльнага статусу і гендарных адрозненняў.

**Паводле Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь.**

## Ля новых шматпавярховак у Вілейцы з'явяцца велапаркоўкі

ВІЛЕЙКА

Велапаркоўкі прадугледжаныя ў праектнай дакументацыі.

Першая з'явіцца ў тарцы жылога дома «Паўночны-38», які яшчэ ў праекце, з колькасцю паркавачных месцаў з разліку кватэр у дамах «Паўночны-37» і «Паўночны-38».

Такія паркоўкі могуць стаць месцамі доўгатэрміновага захоўвання ровараў, калі выкарыстоўваць надзейныя замкі і камеры відэаназірання.

**Аддзел інфармацыі.**

## Вілейскія выратавальнікі атрымалі новую аэралодку

ВІЛЕЙКА

Новая лодка «Піранья-4» з'явілася на Вілейскай выратавальнай станцыі.

– Цяпер мы ўсюды паспяваем, – падзяліліся выратавальнікі. – У новай лодкі рухавік і прапелер – як у самалёта.

Па словах спецыялістаў, лодкай ужо спрабуюць карыстацца. Яна можа ехаць і па вадзе, і па снезе, і па лёдзе.

Асаблівa патрэбная такая лодка ў сезон, калі пачынаецца ледастаў і ледаход.

«Піранню-4» зрабілі ў Іркуцку. Яна ўмяшчае пяць чалавек і развівае хуткасць, вышэйшую за сто кіламетраў у гадзіну.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Сямікласніца перамагла ў міжнародным конкурсе журналістаў

МАЛАДЗЕЧНА

Сямікласніца з маладзечанскай гімназіі №10 **Дар'я Навасёлава** перамагла ў V Міжнародным конкурсе юных журналістаў «21 стагоддзе. Час і мы», які завяршыўся 29 лістапада 2018 года ў Петразаводску.

Да ўдзелу ў конкурсе было прадстаўлена больш за 260 работ з шасці краін – Беларусі, Нарвегіі, Славеніі, ЗША, Расіі і Чэхіі. І менавіта творчая праца Дар'і «Таямнічы сон» у намінацыі «Самае незвычайнае падарожжа» зацікавіла журы конкурсу.

Працу адзначылі Дыпломам II ступені. Гэта адзіная праца-прызёр сярод прадстаўленых беларусаў.

**Паводле Упраўлення адукацыі Мінаблвыканама.**

## У наступным годзе ў Ашмянах з'явіцца парк з навагодніх елак

АШМЯНЫ

Парк з навагодніх елак закладуць у рамках акцыі «Другое жыццё елкі». У школах жывыя ялінкі ўпрыгожаць да святаў, а вясной іх з кадак перасадзяць у зямлю.

Плануюць, што, калі прыйдзе час высаджваць елкі, да школ далучацца і іншыя арганізацыі, разам яны высадзяць не проста алею, а цэлы парк з навагодніх дрэў, паведамілі ва ўпраўленні адукацыі Ашмянскага райвыканкама.

Усё пачалося яшчэ ў кастрычніку, калі школы атрымалі туі і елкі ў падарунак ад ляснiцтваў да Дня маці. Туі высадзілі на алеі, прысвечанай матулям. А елкі зберaглі для святаў і будучага парку.

**Паводле OSH.BY.**





Аляксандр Тамковіч.

# Наш зямляк можа стаць журналістам года

### Вядомы шорт-ліст Нацыянальнай прэміі беларускіх праваабаронцаў

АШМЯНЫ

**Сталі вядомыя асобы, якіх вылучылі ў намінацыі «Журналіст года».**

30 лістапада праваабарончая супольнасць Беларусі вызначыла шорт-ліст штогадовай Нацыянальнай прэміі за дасягненні ў галіне правоў чалавека.

У намінацыі «Журналіст года» вылучаныя:

- **Таццяна Каравянкова**, БелаПАН;
- **Ірына Леўшына**, БелаПАН;
- **Аляксандр Тамковіч**, «Свабодныя навіны».

Журналіст Аляксандр Тамковіч нарадзіўся ў Ашмянах. Нядаўна мы пісалі пра перамогу яго дачкі Мары на нацыянальным кінафестывалі «Лістапад».

Нацыянальная прэмія беларускіх праваабаронцаў за дасягненні ў галіне правоў чалавека была заснаваная ў 2008 годзе «Праваабарончым альянсам».

Ад 2011 года прэмія з'яўляецца агульнай ад усёй беларускай праваабарончай супольнасці, якой за абарону каштоўнасцяў правоў чалавека штогод адзначаецца «Праваабаронца года», «Журналіст года», «Адвакат года» (да 2015 года) і ўпершыню ў 2016 годзе – «Кампанія/ініцыятыва года».

Аляксандр Тамковіч нарадзіўся 9 лістапада ў Ашмянах. Тут скончыў школу. У 1987 годзе скончыў Львоўскае ваенна-палітычнае вучылішча. Працаваў карэспандэнтам у розных СМІ. У 2001 стварыў і ўзначаліў газету «Дзень». Аўтар кніг «Асобы», «Будзіцелі», «Мазаіка жыцця» і многіх іншых. У суаўтарстве са **Святланай Калінкінай** і **Аляксандрам Коктышам** напісаў кнігу «Генадзь Карпенка: хроніка разбітых надзей». Сябра Беларускай асацыяцыі журналістаў. Узнагароджаны прэміямі Юрыя Захаранкі і Алеся Адамовіча.

**Аддзел інфармацыі.**

● ПАСЛЯ ПУБЛІКАЦЫІ

## Бясплатна ездзіць можна, але ў межах раёна

**У №47 «Рэгіянальнай газеты» мы пісалі пра тое, што чалавек на вазку з Ільі Віктар Філістовіч дабіваецца ўвядзення аўтобуса Ілья-Вілейка, абсталяванага для людзей з інваліднасцю.**

Да нас мужчына звярнуўся з пытаннем, ці могуць інваліды першай групы і іх суправаджальнікі ездзіць бясплатна на грамадскім транспарце.

Мы звярнуліся ў Офіс па абароне правоў людзей з інваліднасцю да юрыста **Сяргея Драздоўскага**. Нам адказалі, спасылаючыся на Закон аб дзяржаўных сацыяльных ільготах, правах і гарантыях для асобных катэгорый грамадзян ад 14 чэрвеня 2007 года. Інваліды першай групы і асобы, якія іх суправаджаюць, у гарадскім, прыгарадным і міжгароднім транспарце павінны ездзіць бясплатна.

**Пасля публікацыі да нас звярнуліся чытачы з Маладзечна. Яны расказалі, што, возячы інвалідаў з Маладзечна ў Бараўляны, бяруць білет і сабе, і чалавеку з інваліднасцю. Ці правільна гэта?**



Фота comeinbarcelona.com.

Магчыма, на Вілейшчыне з'явіцца аўтобус для людзей з інваліднасцю.

Ці ўсё ж дадзеныя катэгорыі маюць права ездзіць бясплатна толькі на гарадскіх і прыгарадных аўтобусах?

Як нам растлумачылі ў Офісе, згодна з вышэйназваным законам, а менавіта з пунктам 17 артыкула 13, людзі з інваліднасцю і суправаджальнікі сапраўды маюць права ездзіць бясплатна. У тым ліку і на міжгароднім транспарце, але толькі ў межах раёна.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Будуе бізнес на ферме трусоў у Нарачы

*Артыкул падрыхтаваны ў межах сумеснага праекта з EU Neighbours East «Свой край: партрэты». Погляды, выяўленыя ў тэксце, належаць выключна аўтару артыкула.*

МЯДЗЕЛ

**Аляксандр Гатоўка з курортнага пасёлка Нарач разводзіць трусагадоўчую ферму. Дзякуючы бізнес-інкубатару ў Камарове ён увасабляе сваю мару.**



Фота забяспечана Аляксандрам ГАТОЎКАМ.

Каб быць упэўненым у якасці трусяціны, гаспадар наладжвае ўласную лінію выпрацоўкі кармоў.

Аляксандр жыве ў Нарачы ад першага класа. Паспеў папрацаваць у аптовых продажах, будаўніцтве. Шлях да фермы пачаўся на бацькоўскім лецішчы, дзе малады чалавек эксперыментаваў.

З чатыры гады таму пачаў будаваць сваю ферму. Паставіў хлеў 12 на 12, пабудову для кармоў 6 на 8. Жывёлы развіваліся някепска, але паўстала праблема кармоў. Аляксандр разводзіць хіплусаў. Гэта парода вельмі хутка набірае вагу – у чатыры месяцы могуць важыць да пяці кілаграмаў. Але такіх жывёл трэба карміць адмысловай ежай, якую ў Беларусі гаспадар не знайшоў. Таму і прыйшоў да высновы, што трэба выраблясць самому.

Развядзенне трусоў прыносіць больш хуткую аддачу, чым буйнарагатай жывёлы, авечак. Калі там трэба 3-4 гады выходзіць на нуль, то прамысловая парода родам з Францыі дазваляе пачаць зарабляць хутчэй.

Гаспадар марыць зрабіць ферму безадходнай, таму плануе дадаць і птушак. Ядомыя часткі пасля забою трусоў можна скормліваць птушкам, што прынясе дадатковыя магчымасці. У працяг тэмы безадходнасці Гатоўка рыхтуе месца перапрацоўкі гною ў гумус.

Для выпрацоўкі кармоў неабходная ўласная кармавая база. Для сыравіны добра падыходзіць чырвоная канюшына, у будучым фермер дадасць люцэрну і іншыя багатыя спажыўнымі рэчывамі травы. Іх пакосяць, перапрацуюць на спецыяльнай вытворчай лініі, правядуць праз гранулятар – і корм гатовы.

## Як вучыўся ў бізнес-інкубатары

Мінулай зімой Гатоўка скончыў другі набор школы вясковага бізнесу, якая працуе ў межах бізнес-інкубатара ў Камарове. Прызнаецца, што спачатку паставіўся да ідэі са скепсісам – ну, чаму ўжо навучаць тут, у правінцыі. Аднак школа перасягнула ўсе чаканні.

– Трэнераў падабралі проста выдатна, арганізацыя супер, – дзеліцца фермер. Усё зрабілі як мага лепш. Вельмі спадабалася.

У канцы вучобы слухачы прадстаўлялі камісіі свае бізнес-праекты. Абіралі пераможцаў – тых, каму далі грашовую падтрымку. Праект Гатоўкі апынуўся сярод іх.

– Хваляваўся больш, чым пры абароне дыплома. Усё ж 10 тысяч еўра пастаўленыя на кон.

На атрыманую падтрымку фермер набыў тэхніку для лініі гранулявання. Многае рабілі на заказ упершыню. Абсталяваннем Аляксандр задаволены, сур'ёзных недапрацовак няма.

Лінія дазволіць карміць трусоў свежым кормам без цвілі і рызыкі інфекцый. Фермер будзе ўпэўнены ў якасці і бяспецы сваёй прадукцыі.

Да вясны гаспадар плануе, што на ферме развядзе да 100 самак. Пакуль яго трусоў пераважна купляюць аптавікі. Але Аляксандр упэўнены, што неабходна шырэй прадаваць прыватнікам. Каб кожны мог паласавацца карысным і спажыўным трусяцінай.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 28.11 | 5.12 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,45 | 18,45 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,95 | 3,95 |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 6,98 | 7,34 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | 8,50 |
| Карп жывы, 1 кг | – | 4,50 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,60 | 4,40 |
| Селядзец, 1 кг | 3,50 | 3,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | 14,80 |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,10 | 1,10 |
| Рыс, 0,8 кг | 1,80 | 1,80 |
| Алей, 1 л | 3,00 | 3,00 |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | 4,80 |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | 2,15 |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | 1,60 |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | 1,90 |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | 1,80 |
| Агуркі, 1 кг | 3,30 | 4,50 |
| Бульба, 1 кг | 0,50 | 0,50 |
| Буракі, 1 кг | 0,75 | 0,70 |
| Капуста, 1 кг | 0,60 | 0,75 |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,90 | 1,90 |
| Морква, 1 кг | 0,80 | 0,80 |
| Памідоры, 1 кг | 2,80 | 4,50 |
| Перац, 1 кг | 4,95 | 5,50 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,85 | 0,85 |
| Часнок, 1 кг | 2,00 | 4,50 |
| Шампіньёны, 1 кг | 4,90 | 4,90 |
| Апельсіны, 1 кг | 3,80 | 3,20 |
| Бананы, 1 кг | 1,50 | – |
| Вінаград, 1 кг | 3,50 | 3,50 |
| Гранат, 1 кг | 4,50 | 4,50 |
| Грушы, 1 кг | 1,50 | 3,00 |
| Ківі, 1 кг | 3,30 | 3,90 |
| Лімоны, 1 кг | 3,50 | 3,50 |
| Мандарыны, 1 кг | 3,50 | 3,50 |
| Хурма, 1 кг | 2,70 | 2,40 |
| Яблыкі, 1 кг | 1,30 | 1,39 |
| Грэцкі арэх, ядро, 1 кг | 25,00 | 25,00 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | 1,50 |
| Масла, 1 кг | 15,00 | 15,00 |
| Сала, 1 кг | 12,50 | 12,50 |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | 12,00 |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | 7,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | 3,00 |



**ЛІЧБА НУМАРА**

**393,68** РУБЛЯ – СЯРЭДНІ ПАМЕР ПРЫЗНАЧАНЫХ ПЕНСІЙ ПА ЎЗРОСЦЕ ЗА ЛІСТАПАД 2018.

ПАВОДЛЕ МІНПРАЦЫ.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 29.11 | 6.12 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1471 | 2.1350 |
| Еўра | 2.4227 | 2.4187 |
| Злоты, 10 | 5.6357 | 5.6431 |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2013 | 3.1961 |
| Грыўня, 100 | 7.5941 | 7.6315 |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 28.11 | 5.12 |
| Еўра | 2.4100/2.4380 | 2.4080/2.4280 |
| Долар ЗША | 2.1350/2.1590 | 2.1240/2.1420 |

## Машына перакулілася, пасажырка ў бальніцы

ВІЛЕЙКА

Аварыя здарылася ў нядзелю, 2 снежня, каля 13:00.

На чацвертым кіламетры аўтадарогі Вілейка-Асінаўка перакулілася «Аўдзі-100», за рулём якой быў 62-гадовы віляйчанін.

Мужчына няправільна выбраў хуткасць, не ўлічыў, што дарога была заснежаная і слізкая. У выніку ён не справіўся з кіраваннем, машына з'ехала ў кювет і перакулілася, распавялі ў Вілейскім РАУС.

Пацярпела 86-гадовая пасажырка, якую забралі ў бальніцу.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Маладзечанец выпіў каньяку і збіў дарожны знак

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося каля 17 гадзін 1 снежня.

43-гадовы жыхар Маладзечна ехаў на «Хёндэ».

З вуліцы Магістральнай збіраўся павярнуць на Нагорную. Ён не ўлічыў умовы надвор'я, калі паварочваў направа, і знёс дарожны знак.

Кіроўца патлумачыў, што гадзіну таму выпіў 200 грамаў каньяку.

Экспертыза паказала, што ў крыві кіроўцы было 2,86 праміле алкаголю.

Да ўсяго, машына не мела тэхагляду. Яе перамясцілі на штрафстаянку.

Пра здарэнне паведаміў дзяржаўтаінспектар **Сяргей Бартош**.

**Аддзел інфармацыі.**

## На пажары ў Маладзечне работнікі МНС выратавалі гаспадара кватэры

МАЛАДЗЕЧНА

Трэцяга снежня ў 01:34 у службу выратавання паступіла паведамленне аб загаранні ў кватэры на другім паверсе двухпавярховага шматкватэрнага жылога дома на Вялікім Гасцінцы. Выратавальнікі ўбачылі слабое задымленне ў кватэры на другім паверсе.

Яны вынеслі з пакоя на свежае паветра 28-гадовага гаспадара. Мужчыну брыгада «хуткай дапамогі» адвезла ў прыёмнае аддзяленне бальніцы №1 у Маладзечне. Пасля абследавання ўстаноўлена, што дапамога медыкаў яму не патрабуецца. Пацярпелых няма. Эвакуацыя жыхароў з суседніх кватэр не праводзілася. У выніку пажару пашкоджаныя пасцельныя прыналежнасці. Прычына пажару ўстанаўліваюць. Меркаваная версія – неасцярожнасць пры курэнні.

**Паводле сайта МНС.**



## Гаспадар падзараджаў акумулятар, а ў выніку згарэлі машына і гараж

СМАРГОНЬ

Паведамленне пра пажар у Солах выратавальнікі атрымалі 1 снежня каля дзесяці раніцы.

У прыватным двары ў вёсцы Солы гарэў гараж.

Мяркуюць, што прычынай стала няспраўнасць электраабсталявання.

Пажар знішчыў перакрыцці, дах і легкавы аўтамабіль «Сітраэн-Эвазіён».

Мяркуюць, што пажар здарыўся з-за падзараднай прылады для акумулятара.

**Паводле сайта МНС.**

## Віляйчанін выпіў гарэлкі ў Маладзечне, паехаў па цыгарэты і выехаў на сустрэчку

ВІЛЕЙКА
МАЛАДЗЕЧНА

Дарожна-транспартнае здарэнне адбылося каля 21:30 у суботу, 1 снежня.

29-гадовы жыхар Маладзечна ехаў на «Вольве С60» па Віленскай з боку Лясных.

На пуцеправодзе перад ім рушыла «Рэно». Каля будынка «Руэлта» «Рэно» раптоўна здае ўправа і на абочыну.

Кіроўца «Вольвы» бачыць, што ў метрах пяці з сустрэчкі на яго вылятае «Мазда». Рэзка здае ўправа і тармозіць.

«Маздай» кіраваў 23-гадовы віляйчанін. Ён патлумачыў, што каля 18 гадзін распіваў паўлітра гарэлкі з маладзечанскімі сваякамі. Вырашыў з'ездзіць на Лясныя, каб купіць цыгарэты. На пуцеправодзе адчуў, што заносіць правы бок, пасля выехаў на сустрэчную.

У крыві віляйчаніна знайшлі 2,20 праміле алкаголю, расказаў дзяржаўтаінспектар **Сяргей Бартош**.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота planeta-best.ru

Лёд яшчэ тонкі, аднак не ўсе аматары зімовай рыбалкі думаюць пра гэта.

# На Вілейскім вадасховішчы рыбак праваліўся пад лёд

ВІЛЕЙКА

**У Беларусі па-ранейшаму дзейнічае забарона выходзіць на лёд. Аднак на Вілейскім вадасховішчы, асабліва ў Вязыні і Касуце, ужо сядзяць рыбакі.**

– На лёд цяпер выходзіць вельмі небяспечна. Таўшчыня покрыва – усяго паўтара сантыметра, – распавялі «Рэгіянальнай газеце» ў Вілейскай выратавальнай станцыі.

Па словах выратавальнікаў, 2 снежня ў раёне былой вёскі Вольшына, на Вілейскім вадасховішчы, пад тонкі лёд праваліўся рыбак. Мужчыну ўдалося выратаваць. Пакуль прыехалі спецыялісты, сябар змог выцягнуць яго і адвесці ў машыну.

Выходзіць на лёд дазволяць, калі таўшчыня покрыва будзе сем сантыметраў.

### Выратавальнікі нагадваюць правілы паводзін на лёдзе

Пераходзіць вадаёмы па лёдзе варта ў месцах абсталяваных пераправаў. Калі іх няма, пераканайцеся ў трываласці лёду пешняй – спецыяльнай манціроўкай – або калом.

Рухаючыся па лёдзе, уважліва сачыце за яго паверхняй, абыходзьце небяспечныя і падазроныя месцы

Катацца на каньках можна толькі на спецыяльна абсталяваных катках. Ладзіць каткі на вадаёмах можна на мелкаводдзі, у месцах, дзе няма хуткай плыні пры таўшчыні лёду не менш за 10-12 сантыметраў, не менш за 25 – для масавых катанняў.

Падчас рыбалкі не рэкамендуецца прабіваць шмат лунак на блізкай адлегласці, скакаць і бегаць па лёдзе. Рыбаку трэба мець вяроўку даўжынёй 15-20 метраў з пятлёй на адным канцы і грузам вагой 400-500 грамаў на другім і выратавальную камізэльку. Праваліўшыся пад лёд, кінце ў бок берага замацаваную на поясе вяроўку і без рэзкіх рухаў старайцеся выбрацца на трывалы лёд. Рухайцеся ў бок берага.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На Маладзечаншчыне на пажары загінуў мужчына

МАЛАДЗЕЧНА

Паведамленне пра пажар у вёсцы Шыпулічы Цюрлёўскага сельсавета маладзечанскія выратавальнікі атрымалі 1 снежня пасля 14:00.

Тое, што гарыць жылы драўляны дом, убачылі суседзі. Яны і выклікалі выратавальнікаў.

Калі спецыялісты былі на месцы, убачылі, што з дома ідзе дым.

Пажар пачалі тушыць. На падлозе ў адным з пакояў знайшлі гаспадара без прыкмет жыцця.

– Ён нідзе не працаваў. Жыў адзін, курыў, шмат і часта выпіваў, – ахарактарызавалі суседзі загінулага.

У выніку пажару выгараў жылы пакой, закураная кухня. Пажарнага апавяшчальніка не было, расказала «Рэгіянальнай газеце» інспектар групы прапаганды і агітацыі Маладзечанскага ГРАНС **Валянціна Сопат**.

Прычыну пажару высвятляюць. Магчыма, трагедыя здарылася з-за таго, што гаспадар курыў у ложку.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Расклад руху цягнікоў па станцыі Маладзечна ад 9 снежня

Мінскае аддзяленне Беларускай чыгункі. Станцыя Маладзечна УНП 600199541

## Цягнікі рэгіянальных шляхоў зносін

| МАЛАДЗЕЧНА-МІНСК | | | | МІНСК-МАЛАДЗЕЧНА | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| № п/п | Час адпраўлення | Час прыбыцця | Даты руху, шляхі зносін, прыпынкі | № п/п | Час адпраўлення | Час прыбыцця | Даты руху, шляхі зносін, прыпынкі |
| 6102 | 04:15 | 06:00 | б.п. Селівонаўка | 6101 | 00:45 | 02:25 | б.п.: Татаршчызна, Селівонаўка |
| 6104 | 05:11 | 06:58 | | 6103 | 04:40 | 06:11 | б.п.: Мінскае Мора, Крыжоўка, Зялёнае, Хмелеўка, Анусіна, Вязынка, Пралескі да Гудагая |
| 6106 | 05:34 | 07:22 | па рабочых днях | 7031 | 05:24 з Мінска Паўн. | 06:53 | б.п.: Мінскае Мора, Ратамка, Крыжоўка, Зялёнае, Хмелеўка, Анусіна, Вязынка, Пралескі, Раманы, |
| 6108 | 05:48 | 07:34 | з Гудагая | 6105 | 05:26 | 07:10 | |
| 6110 | 06:47 | 08:44 | | 6107 | 06:25 | 08:20 | да Гудагая |
| 7032 | 07:14 | 08:28 | з прып. Фестывальны, Ждановічы, Лябяжы, Масюкоўшчына, Мінск Паўночны | 6109 | 07:23 | 09:25 | |
| 6112 | 07:34 | 09:22 | з Гудагая | 6113 | 08:48 | 10:46 | |
| 6114 | 09:11 | 11:08 | | 6115 | 09:46 | 11:40 | |
| 6116 | 09:54 | 11:29 | з Гудагая да ст. Алёхнавічы з усімі прыпынкамі, далей па станцыях, п.п. Лябяжы, Ждановічы, Масюкоўшчына, Мінск Паўночны | 6117 | 11:17 | 13:02 | штодзённа па суб., нядз. да Гудагая |
| 6120 | 10:55 | 12:40 | | 6119 | 12:59 | 14:44 | |
| 6122 | 13:03 | 14:50 | | 6121 | 14:06 | 15:55 | б.п. Селівонаўка да Гудагая |
| 6124 | 14:53 | 16:40 | | 6123 | 15:38 | 17:24 | |
| 6126 | 16:13 | 18:00 | | 6125 | 16:22 | 18:06 | да Гудагая |
| 6128 | 16:47 | 18:34 | штодзённа па вых. днях ідзе ад ст.Гудагай | 6127 | 17:34 | 19:19 | |
| 6130 | 17:28 | 19:27 | | 7035 | 18:11 | 19:26 | Мінск-Маладзечна з прып.: Мінск Паўночны, Масюкоўшчына, п.п. Лябяжы, Ждановічы, Фестывальны, далей да Гудагая, з прып.па ст.і п.п.Заскавічы, Маладзёжны, Каменка |
| 6132 | 19:21 | 21:07 | з Гудагая | | | | |
| 7034 | 19:50 | 21:08 | з прыпынкамі па станцыях, п.п. Фестывальны, Ждановічы, Лябяжы, Масюкоўшчына, Мінск Паўночны | 6129 | 18:18 | 20:02 | да Гудагая ў 20:32 |
| 6136 | 20:33 | 22:27 | | 6131 | 19:17 | 21:12 | да ст. Солы па станцыях і п.п. Заскавічы, Маладзёжны |
| 7036 | 21:28 | 22:43 | Гудагай-Маладзечна з прып.па станцыях і п.п.Каменка, Гаўці, Маладзёжны, далей да Мінска з прып. Фестывальны, Ждановічы, Лябяжы, Масюкоўшчына, Мінск Паўночны | 6133 | 20:44 | 22:28 | |
| 6138 | 22:22 | 00:01 | з Гудагая б.п.: Раманы, Пралескі, Хмелеўка, Зялёнае, Крыжоўка | 6135 | 22:15 | 23:57 | б.п.: Татаршчызна, Селівонаўка |

| МАЛАДЗЕЧНА – ГУДАГАЙ | | | | ГУДАГАЙ – МАЛАДЗЕЧНА | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| № п/п | Час адпраўлення | Час прыбыцця | Даты руху, шляхі зносін, прыпынкі | № п/п | Час адпраўлення | Час прыбыцця | Даты руху, шляхі зносін, прыпынкі |
| 6103 | 06:15 | 07:39 | штодзённа з Мінска | 6108 | 04:21 | 05:41 | штодзённа да Мінска |
| 6107 | 08:32 | 09:55 | штодзённа з Мінска | 6112 | 06:00 | 07:20 | штодзённа да Мінска |
| 6115 | 12:06 | 13:06 | штодзённа да ст. СОЛЫ | 6116 | 08:33 | 09:52 | штодзённа далей да Мінска, да ст.Алёхнавічы з усімі прыпынкамі, далей па станцыях, п.п.Лябяжы, Масюкоўшчына, Ждановічы, Мінск Паўночны |
| 6117 | 13:06 | 14:30 | з Мінска па суб., нядз. | 6882 | 10:25 | 11:45 | штодзённа |
| 6121 | 16:05 | 17:28 | штодзённа з Мінска | 6124 | 13:35 | 14:33 | штодзённа са ст. Солы, далей да Мінска |
| 6125 | 18:10 | 19:34 | штодзённа з Мінска | 6128 | 15:22 | 16:42 | суб., нядз. да Мінска |
| 7035 | 19:30 | 20:40 | штодзённа Мінск-Маладзечна з прып.: Мінск Паўночны, Масюкоўшчына,п.п.Лябяжы, Ждановічы, Фестывальны, далей да Гудагая з прып.: па станцыях, п.п.Заскавічы, Маладзёжны, Каменка | 6132 | 17:47 | 19:16 | штодзённа да Мінска |
| 6129 | 20:34 | 21:57 | штодзённа з Мінска | 7036 | 20:03 | 21:22 | штодзённа з прып.па станцыях, п.п.Каменка, Гаўці, Маладзёжны, Заскавічы, далей да Мінска з прып.: п.п. Фестывальны, Ждановічы, п.п. Лябяжы, Масюкоўшчына, Мінск Паўночны |
| 6131 | 21:26 | 22:15 | да ст. Солы па станцыях, п.п.Заскавічы, Маладзёжны | 6138 | 21:06 | 22:17 | штодзённа з прып.па станцыях, п.п.Каменка, Маладзёжны, Асанаўскі, Насілава, далей да Мінска б/п: Раманы, Пралескі, Хмелеўка, Зялёнае, Крыжоўка |
| МАЛАДЗЕЧНА – ЛІДА | | | | ЛІДА – МАЛАДЗЕЧНА | | | |
| 6261 | 08:44 | 11:43 | штодзённа | 6262 | 04:08 | 07:16 | штодзённа |
| 6263 | 12:26 | 15:21 | пятн.,суб.,нядз. | 6264 | 08:46 | 11:51 | штодзённа |
| 6265 | 18:36 | 21:37 | штодзённа | 6266 | 12:19 | 15:19 | пятн.,суб.,нядз. |
| 6267 | 20:39 | 23:37 | штодзённа | 6268 | 15:48 | 18:46 | штодзённа |
| МАЛАДЗЕЧНА – КРУЛЕЎШЧЫНА – ПОЛАЦК | | | | ПОЛАЦК – КРУЛЕЎШЧЫНА – МАЛАДЗЕЧНА | | | |
| 6626 | 09:20 | 11:27 Крулеўшчына | штодзённа 13:28 Полацк | 6622/ 6621 | 04:31 з Крулеўшчыны | 06:51 | штодзённа з Глыбокага ў 03:53 |
| 6684 | 12:43 | 14:52 | у выхадныя да Крулеўшчыны | 6683 | 15:10 з Крулеўшчыны | 17:16 | у выхадныя |
| 6676 | 15:50 | 16:24 | у рабочыя да Вілейкі | 6683 | 16:44 | 17:16 | у рабочыя з Вілейкі |
| 6630 / 6631 | 20:14 | 22:28 Крулеўшчына | штодзённа 23:10 Глыбокае | 6625 | 17:22 з Крулеўшчыны | 19:37 | штодзённа з Полацка ў 15:27 |

## Пасажырскія цягнікі

| № цягніка | Маршрут руху | Адпр. з пач. станц. | Па ст. Маладзечна: прыбыццё | Па ст. Маладзечна: стаянка | Па ст. Маладзечна: адпраўленне | Прыб. на канцавую станцыю | Дні курсіравання |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 31К | Кіеў – Рыга | 12:50 | 1:05 | 2 | 1:07 | 08:08 | па чыслах |
| 634Ф | Камунары-Гродна /п/в Масква-Гродна/ /п/в Віцебск-Гродна гл/ | 14:53 | 1:43 | 2 | 1:45 | 5:58 | штодзённа |
| 77Щ | Масква-Гродна | 16:36 | 3:47 | 2 | 03:49 | 08:48 | 22/12-18 да 16/01-19; 23/02-26/02; 08/03-13/03; 23/03-02/04; 27/04-14/05; 01/06-03/09; 26/10-12/11 |
| 148Ч | Калінінград-Масква | 16:03 | 03:00 | 2 | 03:02 | 15:30 | 28,29,30/12-18; 1,2,3,4,8,9/01; 7,11/03; 29,30/04; 5,6,12,13/05; ад 24/05 да 9/09-пн, пт.4,11,18,24/06; 2,9,16,23,30/07;6,13,20, 27/08; 1,5/11 |
| 29Ч | Масква-Калінінград | 17:24 | 3:58 | 2 | 4:00 | 12:33 | штодзённа |
| 626Б | Віцебск-Мінск | 21:38 | 4:24 | 29 | 4:53 | 6:31 | штодзённа |
| 360Ч | Калінінград-Адлер (п/в Калінінград-Анапа) па чыслах | 18:07 | 5:02 | 2 | 5:04 | 4:51 | ад 11/12 да 23/12 няцот. 24,26,29/12-18; 3/01-19/05 няцот.; 21,23,25,27,29/05;1/06; 3/06-19/09 няцот.; ад 21/09 няцот. |
| 79Ч | С.-Пецярбург-Калінінград | 12:26 | 5:19 | 23 | 5:42 | 15:07 | 11/12; 12/12-26/12 цот.;30,31/12-18; 3,4,7,10,11/01; 14/01-28/05 цот.; 31/05-04/10 пн.аўт.пт.сб;ад 6/10 цот. |
| 88Б | Рыга-Мінск | 19:20 | 6:05 | 33 | 6:38 | 7:45 | 09/12-18 да 31/01-19 няцот.; 25,27/02; 01/03-19 пры смеж.чыслах; 31 і 1-29,31,3 |
| 741Б | Мінск-Полацк | 6:30 | 7:36 | 11 | 7:47 | 10:23 | штодзённа |
| 673Б | Мінск-Гродна п/в з С.-Пецярбурга (па цотн.) | 7:02 | 8:10 | 3 | 8:13 | 11:48 | штодзённа |
| 805Б | Мінск-Вільня | 7:35 | 8:26 | 1 | 8:27 | 09:05 | штодзённа |
| 739Ф | Полацк-Мінск | 6:13 | 8:36 | 8 | 8:44 | 9:45 | штодзённа |
| 804Т | Вільня-Мінск | 6:15 | 8:59 | 1 | 9:00 | 9:53 | штодзённа |
| 801Б | Мінск-Вільня | 8:13 | 9:10 | 1 | 9:11 | 10:50 | субота, нядзеля |
| 732Ф | Гродна-Мінск | 6:39 | 9:45 | 1 | 9:46 | 10:42 | штодзённа |
| 147Ч | Масква-Калінінград | 23:10 | 10:01 | 2 | 10:03 | 18:39 | 29,30,31/12-18;2,3,4,5,9,10/01;8,12/3; 30/04;1,6,9,13,14,/05;25/05-10/09 аўт,сб; 5,12,19,26/06;3,10,17,24,31/7; 7,14,21,28/08; 2,6/11; |
| 630Б | Гродна-Мінск | 6:45 | 10:30 | 2 | 10:32 | 11:36 | штодзённа |
| 803Б | Мінск-Вільня | 10:30 | 11:24 | 1 | 11:25 | 12:30 | штодзённа |
| 731Ф | Мінск-Гродна | 15:30 | 16:29 | 1 | 16:30 | 19:38 | штодзённа |
| 808Т | Вільня-Мінск | 15:05 | 18:05 | 1 | 18:06 | 19:00 | штодзённа |
| 629Б | Мінск-Гродна | 17:09 | 18:14 | 2 | 18:16 | 22:08 | штодзённа |

| № цягніка | Маршрут руху | Адпр. з пач. станц. | Па ст. Маладзечна: прыбыццё | Па ст. Маладзечна: стаянка | Па ст. Маладзечна: адпраўленне | Прыб. на канцавую станцыю | Дні курсіравання |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 739Б | Мінск-Полацк | 17:28 | 18:27 | 8 | 18:35 | 21:06 | штодзённа |
| 6674Б | Гродна-Мінск п/в да С.-Пецярбурга (па цотн.) | 15:33 | 18:57 | 2 | 18:59 | 20:02 | штодзённа |
| 741Ф | Полацк-Мінск | 16:26 | 19:00 | 8 | 19:08 | 20:09 | штодзённа |
| 32Р | Рыга – Кіеў | 10:10 | 19:08 | 5 | 19:13 | 05:20 | па чыслах |
| 80Ч | Калінінград-С.-Пецярбург | 9:13 | 20:14 | 22 | 20:36 | 14:48 | 9/12-23/12 няцот.; 27,28,31/12;1,4,7,8/01; 11/01-25/05 няцот.; 28/05-1/10аўт,ср,пт,сб; ад 3/10 няцот. |
| 807Б | Мінск-Вільня | 19:30 | 20:20 | 1 | 20:21 | 21:03 | штодзённа |
| 806Т | Вільня-Мінск | 18:30 | 21:10 | 1 | 21:11 | 22:00 | штодзённа |
| 634Б | Гродна-Камунары п/в да Масквы (па чыслах) /п/в Гродна-Віцебск хв/ | 16:45 | 21:15 | 3 | 21:18 | 9: 34 | штодзённа |
| 87Б | Мінск-Рыга | 20:38 | 21:48 | 28 | 22:16 | 7:29 | 11/12-18 да 31/01-19 няцот.; 2,27/02; 1,3,/03 пры смеж. чыслах 31 і 1-31,2,5 |
| 78Б | Гродна-Масква | 17:59 | 21:56 | 2 | 21:58 | 9:50 | 20/12-18 да 14/01-19;21/02-24/02; 6/03-11/03;21/03-31/03;25/04-12/05; 30/05-01/09;24/10-10/11 |
| 625Б | Мінск-Віцебск | 21:31 | 22:45 | 36 | 23:21 | 6:46 | штодзённа |
| 359С | Адлер-Калінінград (п/в Анапа-Калінінград) па чыслах | 21:29 | 22:53 | 2 | 22:55 | 08:08 | 15/12-27/12 няцот.;28,30/12;3/01; 7/01-23/05 няцот.;25,27,29,31/05;2,5/06; 7/06-23/09 няцот.;ад 25/09 няцот. |
| 30Ч | Калінінград-Масква | 13:03 | 23:18 | 2 | 23:20 | 9:09 | штодзённа |
| 802Т | Вільня-Мінск | 20:15 | 23:51 | 1 | 23:52 | 0:49 | субота, нядзеля |
| 426Ч | Калінінград-Чэлябінск | 9:13 | 20:14 | 8 | 20:22 | 6:15 | 27/05-29/09 панядзелак |
| 425У | Чэлябінск-Калінінград | 22:56 | 5:31 | 11 | 5:42 | 15:07 | 02/06-29/09 нядзеля |

Тэл. для даведак: **105,** (8-0176) **74-24-23.**




# ПРЫВАТНЫЯ АБ’ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб’явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб’яву**

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
**МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• DACIA DUSTER. 2010 г.в., 1,6 газ-бензін, чорны, 2 камплекты гумы, торг пры аглядзе. Т. (8-029) 5060612.*

• Грузавы аўтамабіль АВІЯ А-31; 1988 г.в., можна пад тэнт, у рабочым стане. Т. (8-029) 5062340.

• Кіа-Сарэнта, 2005 г.в., прабег 290 000 км, 15 000 руб. Т. (8-029) 7639029.*

• Мазда-Прэмасі, 2000 г.в., 1,8 бензін. У добрым стане. Т. (8-029) 5689198.*

• Мікрааўтобусы MB 100, 1993 г.в.,; грузапасажырскі, 5 месцаў, 2,4 дызель; MB 307, дызель, 1988 г.в.; грузавы (па запчастках). Т. МТС (8-029) 2649526, Вэлком (8-044) 4655299.

• Рэно-19, 1992 г.в., 1,4 л., 1200 руб, торг. Т. (8-029) 5069521.*

• Форд-Транзіт, 1997 г.в., 2,5 ТД, пасажырскі, 7950 рублёў, торг. Абмен. Т. (8-029) 5648002.*

• Электраскутар Bosch. Новы. Нямецкая якасць. Запас ходу да 70 км. Пакупініку падарунак. Т. (8-029) 1383623.

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

• Аўто 0,01 – 3,5 л, 1987-2018 г.в. з любымі праблемамі, для сябе. Дорага. Т. (8-029) 9076073, (8-029) 7459021.*

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 9928406.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 2016100, (8-029) 9961242.*

• Аўто, можна аварыйнае. Дорага. Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на хаду для сябе. Грошы адразу. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*

### ІНШАЕ

• Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*





## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, агульная плошча 50 кв. м. Т. (8-029) 2716509.*

• 3-павярховы жылы дом у цэнтры Вілейкі. Укамплектаваны мэбляй, трэнажорны комплекс «Кетлер». 3 гаражы. Жылая плошча 170 кв. м. Цана дагаворная. Тэрмінова. Т. МТС (8-029) 5058543.

• 3-пакаёвая кватэра ў цэнтры Смаргоні, 70 кв.м, на 3 паверсе. Перапланіроўка, рамонт, мэбля. Т. (8-029) 6632777.*

• Гараж у цэнтры Маладзечна у ГК №1, магчымы абмен на аўто. Т. (8-029) 6128021.*

• Садовы ўчастак у Ласях (кааператыў «Брыльянт»), домік блочны, хлеўчык, сад, нядорага. Т. (8-033) 6407558.*

### НАЙМУ

• Сям’я нойме 1-2-пакаёвую кватэру ў Маладзечне на доўгі тэрмін, нядорага. Тэл. (8-033) 3668181.*

### ІНШАЕ

• Гандлёвы павільён на гарадскім рынку ў Вілейцы плошчай 25 кв. м. Т. (8-029) 1331698, (8-029) 5559694.*

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ** любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Антэны спадарожнікавыя, лічбавае ТБ, усе віды паслуг. ІП Такмакоў Г.У. УНП 692022633. Т. (8-029) 5613972.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*



• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Персанальныя насценныя квартальныя календары на 2019 год з вашым фота – 8 руб., з відамі Смаргоні – 6 руб. Якасная ксеракопія А4, А3 (і каляровая) – без чаргі. Фота на майку-кубак – 9 руб. ІП Улан Р.В. УНП 690288442. Смаргонь, вул. Танкістаў, 8 «НгС». Т. (8-01592) 31570.*

• Рамонт ЖК-тэлевізараў, ноўтбукаў, спадарожнікавых антэн, выезд майстра. ІП Такмакоў Г.У. УНП 692022633. Т. (8-029) 5613972.*

• Рамонт і аддзелка кватэр, дамоў і нежылых памяшканняў. ІП Гарлукевіч П.П. УНП 692021956 Т. (8-029) 8771721.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Лайф (8-025) 9262376, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• **СПІЛОЎВАННЕ, АБРЭЗКА ДРЭЎ**. Бяспечныя метады працы. Прафесійная праца супрацоўнікаў. Кансультацыя і ацэнка **БЯСПЛАТНЫЯ**. Працуем больш за 6 гадоў. Спілоўванне + драбленне пнёў – **СКІДКА**. **ВЫВАЗ** галля і драўніны. ІП Таўгень Е. П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830, (8-029) 1724851.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Уцяпленне дамоў (пенапласт, вата), афарбоўка, падшыва. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*





# РОЗНАЕ

## ПРАДАЕЦЦА

### Будматэрыялы, сантэхніка

• Гарбыль, пілавінне з дастаўкай. Т. (8-029) 7876438.*

• Цэгла (кірпіч) шамотная, віцебскі цэх №1. Т. (8-044) 7557072.*

### Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне

• Саджалка, капалка да міні-трактара МТЗ-132Н. Т. (8-044) 5543365.*

• Трактар МТЗ-80 + прычэп + плугі; 1986 г.в. у рабочым стане. Т. (8-029) 5062340.

• Трактар Т-25, касілка, капалка, рухавік Д-21 да Т-25, Т-16. Т. (8-029) 7892846.*

### Бытавая тэхніка

• Тэлевізар «Віцязь» з прыстаўкай, ложак аднаспальны, курткі на дзяўчынку-падлетка. Маладзечна. Т. (8-0176) 734973.



• Халадзільнік 2-камерны Атлант.Т. Вэлком (8-029) 6870898.*

• Швейная машына ручная (Падольская), б/у. Маладзечна. Т. (8-0176) 550907.

### Камп'ютары, TV, сродкі сувязі



### Жывёла, птушка, пчолы

• Авечкі з ягнятамі. Т. (8-029) 2595800, (8-029) 3494143.

### Іншае

• Гатовыя зрубы з масіву сасны, елкі пад заказ (дамы, альтанкі, лазні). ІП Квяткевіч Д.В. УНП 691182183. Т. МТС (8-029) 2727029.*

• Дровы любыя (колатыя, пілаваныя). Т. (8-029) 6106061.*

## КУПЛЮ

### Бытавую тэхніку

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

### Камп'ютары, TV, сродкі сувязі

• **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, калонкі, узмацняльнікі, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

### Іншае

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Кнігу «Памяць», розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*



• Цёскі. Т. (8-029) 2375721.*

# ПРАЦА

## ПАТРАБУЕЦЦА

• Брыгада гіпсакардоншчыкаў. Т. (8-025) 9356332.

• Слесар-зборшчык музычных інструментаў, слесар-акорднік, абліцоўшчыца (вучань), токар. Т. (8-0176) 730521.*

• Швачка на вытворчасць па пашыве мяккай цацкі, досвед працы швачкай. Поўная занятасць на тэрыторыі працадаўцы. Тэл. (8-029) 1281620.*

## ШУКАЮ РАБОТУ

• Аддзелачнік шукае работу. Вялікі досвед. Т. (8-029) 2775694.

# Як выхаванцы дзіцячага садка шукалі крэўскага кукуця

СМАРГОНЬ

**Усё пачалося з кнігі Аляксандра Камінскага «Пад хвалямі Крэўскага мора».**

У ёй я знайшла гісторыю аўтара, запісаную з успамінаў пра дзіцячую крыўду. Аляксандр расказвае, што ў маленстве вельмі пакутаваў ад кпінаў сяброў і суседкі з-за свайго рабога ад вяснушак носу.

Хлопчыка параўноўвалі з зязюляй, абвінавачвалі, што ён, напэўна, глуміўся над птушынымі гнёздамі. І птушкі, помсцячы, адзначылі яго сваім памётам. Хлопчык плакаў ад злосці, мазаў твар усім, што траплялася пад рукі, спадзеючыся, што хоць нешта дапаможа звесці ненавіснае рабаціннe.

## Дык хто ж такі кукуць?

Аднойчы хлопчык з мамай пайшлі ў госці на бліжэйшы хутар. Са сваякоў Сашу больш за ўсіх падабаўся дзядзька **Іван**. Але на гэты раз малы расчараваўся ў сваім куміры, бо як толькі яны з мамай зайшлі ў хату, дзядзька сказаў: «А вось і кукуць крэўскі з'явіўся!»

Пачуўшы такія словы, Саша адразу ўспомніў пра кпіны сяброў і параўнанне яго з зязюляй. Хлопчык расплакаўся і ўцёк з гасцей. Толькі пазней Аляксандр даведаўся, што «кукуць» – гэта прыгожая цацка-свістулька, якую ляпілі з гліны крэўскія ганчары-гаршэчнікі. А яшчэ часта кукуцямі называлі ўсіх крэўскіх жыхароў, бо многія ў Крэве займаліся ганчарскай справай. Вырабы крэўскіх майстроў славіліся нават у далёкіх краях і карысталіся вялікім попытам.

## Кукуцёў ляпілі з пластыліну

Гісторыя заахвоціла пазнаёміць маіх выхаванцаў беларускамоўнай групы не проста з глінянай цацкай-свістулькай, а ўбачыць на свае вочы крэўскага кукуця. І мы з дзецьмі і іх бацькамі адправіліся на экскурсію ў народны гісторыка-краязнаўчы музей у Крэва.

Шмат новага даведаліся і ўбачылі там, але вочы шукалі кукуцёў. Яны сапраўды былі ў музеі. Час не пашкадаваў іх: крыху пашарпаныя, дзесьці без галавы гліняныя цацкі ляжалі сярод ганчарных побытавых вырабаў.

Дзеці радаваліся. Гісторыя роднай Смаргоншчыны ажывала ў пэўных рэчах і падзеях. Сэрцы малых напоўніліся гонарам за славу мясцовых майстроў-ганчароў. Пасля экскурсіі ў сваёй групе хлопчыкі і дзяўчынкі з задавальненнем ляпілі з пластыліну, расфарбоўвалі гліняныя цацкі-свістулькі, пераказвалі бацькам гісторыю рабога хлопчыка, з нейкай асалодай вымаўляючы словы «крэўскі кукуць».

А яшчэ дзецям вельмі спадабалася свістаць у гліняныя свістулькі. Аказалася, што справа гэта зусім няпростая і патрабуе пэўнага ўмення. Малыя па чарзе спрабавалі пасвістаць, слухаючы дзіўныя гукі, пералівы глінянай цацкі. Самыя здольныя свістуны дзяліліся сваім досведам і вучылі зацікаўленых дылетантаў. Супакоіліся малыя тады, калі ў кожнага атрымліваўся сапраўдны салаўіны пошчак.

## Летам дзеці з бацькамі збіраюцца ў Крэва на фестываль керамікі

Цяпер усёй групай мы чакаем да сябе ў госці мясцовага ганчара – крэўскага кукуця. Вельмі хочацца патрымаць у руках рукатворны гліняны кубак ці збанок, паслухаць рэха ў крынцы, адчуць гладзенькую паверхню міскі, нарэшце ўдыхнуць пах знакамітай гліны, якую бяруць з Крэва для сваіх вырабаў не толькі мясцовыя майстры, а нават керамісты з іншых рэгіёнаў, і паслухаць змястоўны аповед пра працу гаршэчніка.



Дзяўчаткі выпрабоўваюць свістулькі.

А летам, калі мае выхаванцы паедуць разам са сваімі сем'ямі на штогадовы фестываль ганчароў у Крэва, яны будуць ужо не проста сузіраць наваколле, а адчуваць сваю прыналежнасць да славутай гісторыі малой радзімы.

**Эдзіта БРАНЦЭВІЧ,**
**выхавальнік ясляў-сада №8 Смаргоні.**
**Фота аўтара.**

# Бяспечнае карыстанне газам у быце

**У наш час газ з'яўляецца незаменным памочнікам у кожным доме. Аднак варта ведаць, што гэта не толькі зручны, эканамічны від паліва, але пры няправільнай эксплуатацыі яшчэ і вельмі небяспечны.**

Штогод у Беларусі адбываюцца няшчасныя выпадкі, у выніку якіх ёсць пацярпелыя, часам са смяротным зыходам. Трагічная іронія ў тым, што, каб жыхары захоўвалі самыя элементарныя правілы, выкладзеныя ў інструкцыі па эксплуатацыі газавага абсталявання і ў Правілах карыстання газам у быце, гэта дапамагло б пазбегнуць падобных здарэнняў і няшчасных выпадкаў.

У сувязі з паніжэннем тэмпературы вонкавага паветра павышаецца верагоднасць абмярзання агалоўкаў дымавых і вентыляцыйных каналаў для адводу прадуктаў згарання ад газавых праточных воданагравальнікаў, ацяпляльных катлоў і апаратаў. Кожны год на тэрыторыі краіны рэгіструюцца выпадкі атручэння людзей чадам.

Сёлета ў кастрычніку адбыліся два няшчасныя выпадкі з грамадзянамі пры карыстанні газам у быце. 28 кастрычніка ў спецыялізаванае падраздзяленне ВУ «Бярозагаз» паступіла інфармацыя аб атручэнні чадам па адрасе: Бярозаўскі раён, в. Ястрабель, вул. Лясная, д. 24. У доме знойдзенае цела ўласніка без прыкмет жыцця. Па прыбыцці спецыялізаванага падраздзялення ВУ «Бярозагаз» на месцы здарэння было выяўлена, што кран на апусканні да газавага катла АОГВ-11.6 перакрыты, вентыляцыйны канал заткнуты анучай. Пры абследаванні сумесна з работнікамі Следчага камітэта адлучылі дымаадводны патрубак ад катла і дымавога канала. У дымаадводным патрубку выяўленыя старонnія прадметы (рыззё). Меркавана, смерць наступіла ад атручэння чадам. Вядзецца расследаванне.

Зноў жа 28 кастрычніка ў спецыялізаванае падраздзяленне ВУ «Дзяржынскгаз» паступіла паведамленне ад грамадзянкі Е.І. Ігнатовіч аб паху газу на кухні па адрасе: г. Дзяржынск, вул. Кругагорская, д. 43. Меркавана з атручэннем чадам дастаўленае ў Дзяржынскую ЦРБ дзіця (унук гаспадыні) 2012 г.н. у здавальняючым стане.

Брыгада спецыялізаванага падраздзялення, якая прыбыла па ўказаным адрасе, у памяшканні кухні выявіла канцэнтрацыю чаду. Акт тэхнічнага стану вентыляцыйных і дымавых каналаў адсутнічаў, цяга ў каналах адсутнічала. Прычыны і абставіны здарэння высвятляюцца, вядзецца расследаванне ва ўстаноўленым парадку.

Пры спальванні газавага паліва, калі недастаткова паступае кіслароду (закрытая фортка, няспраўная вентыляцыя), то з прычыны няпоўнага згарання выдзяляецца чад (CO), які пры працы газавага ацяпляльнага абсталявання сыходзіць у спецыяльна абсталяваныя дымавыя каналы. У прадуктах згарання ўтрымліваецца вадзяная пара, якая кандэнсуецца на халодных паверхнях коміна. Пры няспраўнасці дымавых каналаў прадукты няпоўнага згарання могуць трапляць у памяшканне. У выніку можа адбыцца атручэнне чадам.

Чад у адрозненне ад бытавога газу не мае паху і з'яўляецца моцнадзейным ядам.

**Як выявіць чад? Для гэтага выкарыстоўваюцца спецыяльныя дэтэктары чаду.**

Усталюйце **дэтэктары чаду (датчык CO)** на кожным паверсе вашага дома, паблізу спальных пакояў для своечасовага папярэджання аб небяспецы.

Звяртаем вашу ўвагу, што **пажарныя апавяшчальнікі (датчыкі дыму), датчыкі (прыборы) выяўлення ўцечкі бытавога газу чад не выяўляюць.**

Нагадваем, што наяўнасць у паветры ўсяго 1% чаду – смяротная канцэнтрацыя для чалавека.

Сярод усіх жыццёвых каштоўнасцяў, несумненна, самай важнай з'яўляецца само жыццё. Задача кожнага чалавека – берагчы жыццё і здароўе сваё і сваіх блізкіх.

Каб пазбегнуць няшчасных выпадкаў, **НАГАДВАЕМ:**

- дымавыя і вентыляцыйныя каналы неабходна перыядычна правяраць, <u>а ў зімовы перыяд рэгулярна аглядаць агалоўкі ўказаных каналаў, каб папярэдзіць іх абмярзанне</u>;
- дымавыя і вентыляцыйныя каналы належаць перыядычнай праверцы і прачыстцы:

* **ацяпляльнага газавага абсталявання** – незалежна ад матэрыялу, з якога яны зробленыя, – перад ацяпляльным сезонам.

* **праточных газавых воданагравальнікаў** – у залежнасці ад матэрыялу, з якога яны зробленыя: цагляныя – не радзей за 1 раз у 3 месяцы; азбацэментныя, ганчарныя, стальныя, а таксама зробленыя са спецыяльных блокаў жараўстойлівага бетону – не радзей за 1 раз у год.

Уладальнікі жылых дамоў і кватэр, дзе ўстаноўленае вышэйзгаданае газавыкарыстальнае абсталяванне, **абавязаныя** выклікаць прадстаўніка спецыялізаванай арганізацыі для праверкі стану дымавых і вентыляцыйных каналаў. Атрымаць акт, які пацвярджае іх спраўнасць.

**Пры эксплуатацыі газавыкарыстальнага абсталявання ЗАБАРАНЯЕЦЦА:**

- пакідаць без нагляду ўключаныя газавыя пліты, а таксама выкарыстоўваць іх для абагрэву памяшканняў;
- пакідаць адкрытымі вентылі балонаў, краны, які знаходзяцца перад газавыкарыстальным абсталяваннем і на ім, пасля таго, як закончыце карыстацца газавым абсталяваннем;
- самавольна падключаць, адключаць, пераcтаўляць, разбіраць і рамантаваць газавае абсталяванне;
- зрываць пломбы, устаноўленыя на прыборах уліку расходу газу, і ўмешвацца ў работу прыбораў;
- сушыць рэчы над полымем гарэлак газавай пліты;
- выкарыстоўваць для сну памяшканні, у якіх устаноўленае газавыкарыстальнае абсталяванне;
- эксплуатаваць газавыя катлы і воданагравальнікі пры няспраўных дымавых і вентыляцыйных каналах, пры адсутнасці цягі і актаў праверак тэхнічнага стану каналаў;
- выкарыстоўваць агонь для выяўлення ўцечкі газу з газаправодаў і газавыкарыстальнага абсталявання;
- карыстацца газавыкарыстальным абсталяваннем, якое эксплуатуецца больш за 20 гадоў;
- уключаць газавыя ацяпляльныя катлы і воданагравальнікі пры няспраўнай аўтаматыцы бяспекі і пры адчуванні паху газу ў памяшканні;
- устанаўліваць у памяшканні топачнай душавыя кабіны, ванны, санвузлы.

**За парушэнне «Правілаў карыстання газам у быце»**, пры адсутнасці адпаведных актаў праверак дымавых і вентыляцыйных каналаў газазабеспячэнская арганізацыя мае права адключыць падачу газу спажыўцу.

Адказнасць за спраўны стан вентыляцыйных і дымавых каналаў ад газавых катлоў і газавых воданагравальнікаў, парушэнні патрабаванняў бяспекі пры эксплуатацыі бытавога газавыкарыстальнага абсталявання ўскладаецца на наймальніка (уласніка) жылых памяшканняў і дамоў.

**Паважаныя абаненты! Не падвяргайце сваё жыццё і жыццё сваіх родных небяспецы.**

**ВУ «Маладзечнагаз».**

УНП 100008077.



Сумесны адпачынак ад перадсвяточнай мітусні.

# Навагоднія навіны: дзе набыць елку і пабачыць Дзеда Мароза

**Да Новага года яшчэ тры тыдні, а навагоднія навіны сыплюцца, як сняжынкі, адна за адной. Іх мы і сабралі для вас, паважаныя чытачы.**

## Калі пройдуць рэгіянальныя калядныя кірмашы

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА
АШМЯНЫ

На кірмашах можна будзе набыць малочныя і мясныя прадукты, рыбу, кандытарскія вырабы.

Абяцаюць вялікі выбар жывых ялінак, ёлачныя ўпрыгажэнні, сувеніры, падарункавыя наборы, вырабы ручной работы.

Ашмянцаў запросяць на кірмашы 23, 30 снежня і 5 студзеня. У Маладзечне кірмаш пройдзе 22 снежня, у Вілейцы – 23.

Плануюць распродажы, рэкламныя акцыі, дэгустацыі, выступленні творчых калектываў.

**Аддзел інфармацыі.**

## Хутка запрацуюць ёлачныя базары

ВІЛЕЙКА
АШМЯНЫ

Набыць елку ў Ашмянскім раёне можна будзе па адрасах:

• Першамайская, на пляцоўцы каля крамы «Пінскдрэў» – у будныя дні;

• Плошча 17 Верасня, на тэрыторыі гарадскога сквера – у выхадныя;

• Чырвонаармейская, 83, мікраёен Заходні, каля крамы «Родны кут» – у будныя і выхадныя;

• Савецкая, 30, на стаянцы каля крамы «Юбілейны» – у будныя і выхадныя;

• Чырвонаармейская, 6, на стаянцы каля крамы «Родны кут» – у будныя і выхадныя;

• Усходняя, 29-а, каля крамы «Санта-90» ТАА «Санта рытэйл» – у будныя і выхадныя.

Таксама набыць елкі можна праз канторы лясніцтваў Ашмянскага раёна (Ашмянскага, Граўжышкаўскага, Будзёнаўскага, Гальшанскага лясніцтваў).

У Вілейскім доследным лясгасе распавялі, што кірмашы будуць працаваць у трох месцах: на Зеніце, у мікрараёне Паўночны і на цэнтральнай плошчы горада ад 21 снежня.

Цэны залежаць ад вышыні святочнага дрэва і будуць ад 9 да 13 рублёў. Можна будзе набыць навагоднія букеты і сосны. На Вілейшчыне плануюць прадаць каля дзвюх тысяч святочных дрэў.

**Аддзел інфармацыі.**

## Дзяды Марозы праедуць на карэтах, аўтамабілях і роварах

ВІЛЕЙКА

Навагоднія мерапрыемствы пачнуцца ў Вілейцы ад 20 снежня.

У гэты дзень Палац культуры запросіць дарослых на мюзікл «Марозка».

Самае маштабнае мерапрыемства разгорнецца ў горадзе 29 снежня ў 15:30.

Замест традыцыйнага парада Дзядоў Марозаў і Снягурак зладзяць аўтапарад.

– Кожны Дзед Мароз са сваёй Снягурачкай павінны будуць прыехаць на плошчу Свабоды на любым транспарце: ровары, аўтамабілі, карэце, – распавяла «Рэгіянальнай газеце» намеснік дырэктара Вілейскага Палаца культуры **Анастасія Чачуліна**. – Галоўнае, каб транспарт быў аздоблены ілюмінацыяй, навагоднімі ўпрыгажэннямі.

Навагоднія персанажы праедуць ад плошчы Свабоды да цэнтральнай плошчы. Тут кожны Дзед Мароз са світай прадставіць сябе, таксама зладзяць канцэрт. Будзе і конкурс на лепшае ўпрыгожванне транспарту.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Дзед Мароз з вілейскай гімназіі №2 стаў самым яркім і творчым на Міншчыне

ВІЛЕЙКА

Фінал абласнога этапу шостага рэспубліканскага агляду-конкурсу Дзядоў Марозаў і Снягурачак «Ёлка-Фэст-2018» правялі 23 лістапада.

Удзельнічала 20 устаноў адукацыі з 16 раёнаў Міншчыны.

Прадстаўнікі Вілейкі не ўвайшлі ў тройку лідараў. Але вілейскага Дзеда Мароза з гімназіі №2 журы прызнала самым яркім і творчым.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Дзяды Марозы і Снягуркі будуць плаціць падатак

Падатковыя інспектары нагадваюць пра неабходнасць аплацiць адзіны падатак тым, хто перад святамі плануе віншаваць людзей у вобразе Дзядоў Марозаў і іншых казачных персанажаў.

Да пачатку дзейнасці фізічныя асобы, якія аказваюць падобныя паслугі, павінны падаць адпаведнае пісьмовае паведамленне ў падатковую інспекцыю па месцы жыхарства і заплаціць адзіны падатак. Рэгістравацца як індывідуальны прадпрымальнік не трэба.

У Міністэрстве па падатках і зборах адзначылі, што сума падатку вызначаецца падатковым органам па месцы жыхарства. Напрыклад, смаргонскія Дзяды Марозы павінны будуць заплаціць 75 рублёў.

**Паводле БелТА.**

## На навагоднія святы Вілейку ўпрыгожаць экалагічна

ВІЛЕЙКА

Віляйчанам прапаноўваюць паўдзельнічаць у конкурсе на стварэнне экалагічнай цацкі.

Трэба стварыць навагоднюю цацку або ёлку з экалагічных матэрыялаў, падзяліцца гэтай навіной на старонцы суполкі і збіраць лайкі пад сваім пастом. На Новы год абяцаюць падарунак.

Да ўдзелу запрашаюць школьнікаў і навучэнцаў Вілейшчыны. Выстаўляць фоткі цацак і ёлак у суполку або дасылаць іх на пошту spare@ecopartnerstvo.by можна да 12 снежня.

Пад пастом або ў лісце пазначце сваё імя і прозвішча, школу. Пажадана – назву працы і матэрыял, з якога яе зрабілі.

Пераможцаў вызначаць галасаваннем «Укантакце». Пераможцуць 15 прац, што набяруць найбольшую колькасць галасоў.

Тэлефоны для даведак **+375 29 106 67 10, +375 44 752 58 83.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Хочаце даведацца імя нарачонага – абразайце скурку яблыка

## У Маладзечне правялі вечар польскай культуры з варажбой

МАЛАДЗЕЧНА

**Днямі ў суседняй Польшчы адзначалі Анджэйкі і Катажынкі – святы, на якія дзяўчаты і хлопцы варожаць на нарачоных, а яшчэ на будучыню.**



Аляксандра Парахня (злева) дапамагае дзяўчатам даведацца пра будучыню.

Таму выкладчыкі польскай мовы са сталіцы **Моніка Уранэк**, **Сяргей Стралкоўскі**, **Аляксандра Парахня** і выкладчык чэшскай **Уладзіміра Салашкова** вырашылі правесці ў «Адкрытай прасторы» вечар польскай культуры з варажбой.

### Сапраўдная пустыня і высокі штраф для безбілетнікаў

Перад асноўнай часткай імпрэзы адзін з вядучых, пан Сергіуш, правёў віктарыну, каб праверыць, што ведаюць гледачы пра Польшчу.

З віктарыны мы даведаліся, што ў Польшчы ёсць сапраўдная пустыня – Блэндаўская. Яе плошча – дзесяць на чатыры кіламетры.

Напэўна, кожны, хто збіраецца ў гэту краіну, улічыў, што на грамадскім транспарце ў Варшаве лепш не ездзіць зайцам. Таму што за безбілетны праезд вы там заплаціце 266 злотых, а гэта каля 70 долараў.

**Адкрылі для сябе, што, аказваецца, у Польшчы ёсць мясціна, дзе на афіцыйным узроўні можна звяртацца ва ўстановы па-беларуску і на нашай роднай мове атрымаць адказ. Гэта горад Гайнаўка на мяжы з Беларуссю.**



У імкненні даведацца імя нарачонага.



Ад Сяргея Стралкоўскага мы даведаліся пра тое, што ў 1994 годзе палякі занялі другое месца на Еўрабачанні.

### Як сёлета найчасцей называлі дзяцей у Польшчы

Сёлета за першае паўгоддзе найбольш папулярнымі мужчынскімі імёнамі ў Польшчы сталі Антоні, Якуб і Ян, жаночымі – Сусанна, Юлія, Зоф'я.

Таксама ўзнавілі ў памяці, што ад 1989 года ў палякаў шосты прэзідэнт, што чатыры прадстаўнікі краіны атрымалі Нобелеўскую прэмію па літаратуры. Што жужаль – гэта не жук, а распаўсюджаны від спорту ў Польшчы – гонкі на матацыклах.

### На Катажынкі варожаць менш

Полька пані Моніка, што жыве ў Беларусі чатыры гады, распавяла, якія восеньскія абрадавыя святы адзначаюць на яе радзіме. Гэта Дажынкі, Дзяды, Задушша, Катажынкі і Анджэйкі. Заўважыла, што Дзяды часткова выцясняюць Хэлаўін.

Святы Катажынкі (з 24 на 25 лістапада) і Анджэйкі (з 29 на 30 лістапада) традыцыйна звязаныя з варажбой. На Катажынкі варажылі хлопцы, на Анджэйкі – дзяўчаты. Сёння ўсё радзей варожаць на будучага мужа або жонку.

Часцей людзі хочуць даведацца пра сваю будучыню. Абрады – універсальныя. Варажыць могуць і мужчыны, і жанчыны, і дзеці, і дарослыя. І ўсё ж, па словах Монікі, на Катажынкі ўжо амаль не варожаць. Традыцыя захавалася на Анджэйкі.

### Віншуем знаёмых Анджэяў

Адкуль назва свята? Яно названае ў гонар святога Анджэя, імяніны якога прыпадаюць на 29-30 лістапада.

– У нас, палякаў, асабліва ў дарослых, імяніны – больш важнае свята, чым дзень нараджэння, – распавяла Моніка. – У гэты дзень віншуем усіх Анджэяў. Імя ў Польшчы распаўсюджанае, таму амаль у кожнага ёсць такі знаёмы.

На Анджэйкі, па народных прыкметах, палякі вызначаюць, якім будзе надвор'е зімой. Напрыклад, калі 29-30 лістапада ёсць снег, то ён будзе ляжаць яшчэ сто дзён.

### Пачалося самае цікавае

Пасля інфармацыйнай часткі надышоў час варажбы. Імя будучага жаніха дзяўчаты даведваліся з дапамогай скуркі яблыка. Зразалі яе, як мага даўжэйшую, кідалі праз левае плячо і глядзелі, якія літары складуцца.

Паўдзельнічалі і ва ўкладванні ботаў. Дзяўчаты ставілі па сваім чаравіку адзін за адным, перастаўляючы апошні наперад. Чый першы крануўся парога, тая першай і выйдзе замуж.

Каб даведацца імя нарачонага і сваю будучыню, праколвалі папяровае сэрца, высыпалі на стол шпількі, выбіралі адзін кубачак з пяці. А яшчэ лілі воск у ваду праз дзірку ў ключы. Ключ – для таго, каб адчыніць дзверы ў тагасвецце.

Я з дочкамі, Юляй і Варварай, таксама далучылася да магічнага працэсу. У выніку ў Юлі з воску атрымалася ваза з кветкамі, у Варвары – паравоз, а ў мяне… Зрэшты, няхай гэта будзе маім сакрэтам.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

# Пра надпісы на нямецкіх умацаваннях часоў Першай сусветнай у Крэве і ваколіцах

СМАРГОНЬ

**У Крэве і ваколіцах з часоў Першай сусветнай вайны захавалася мноства моцных бетонных умацаванняў.**




Нямецкі надпіс «Мы мацнейшыя за рускіх!» захаваўся толькі на архіўным здымку.

### У рускіх – бліндажы з дрэва і пяску, у немцаў – з цэменту

Трэба сказаць, што цэментавыя бліндажы ўзводзілі тут толькі немцы. Умацаванні рускіх былі з дрэва і пяску, таму да нашага часу не захаваліся. Спачатку і ў немцаў яны былі драўляныя. Але калі стала зразумелым, што лінія фронту спынілася тут надоўга, тыя пачалі ўзводзіць больш дасканалыя і трывалыя збудаванні. Асабліва іх колькасць і якасць пачалі расці, калі да немцаў данесліся чуткі аб наступальнай аперацыі пад Крэвам, што планавалася рускімі на лета 1917 года.

Сённяшняя наша віртуальная экскурсія ахопіць толькі ваенна-інжынерныя пабудовы, якія ўтрымліваюць тыя ці іншыя надпісы на фасадах ці на сценах унутры. Канешне ж, па-за ўвагай застануцца росписы сучасных «графіцістаў», да якіх яшчэ не дайшло, што псаваць помнікі – дрэнна.

А вось першапачатковыя надпісы вартыя ўвагі. Па-першае, некаторыя з іх не пазбаўлены мастацкасці. Па-другое, яны даюць разнастайную інфармацыю пра час узвядзення аб'екта, пра вайсковыя фарміраванні і разлікі, якім належалі. Цікавасць выклікаюць таксама і некаторыя пасляваенныя надпісы.

### Некаторыя з надпісаў не пазбаўленыя прапаганды

Многія надпісы рабілі з прапагандысцкімі мэтамі. Салдатам убівалі ў галаву, што тут, на чужой зямлі, яны «абараняюць радзіму», што «перамога будзе за намі».

На гістарычным здымку блокхаўза 379-га стралковага палка ў Бучыне (урочышча ў паўночна-заходняй частцы Крэва) быў прапагандысцкі надпіс «Den Russen sind wir über». Яго можна перакласці як «Мы мацнейшыя за рускіх!». Некаторыя надпісы-таблічкі ўказвалі на месца размяшчэння камандзіраў пэўных падраздзяленняў.

Увогуле, немцы любілі аздабляць прыгожымі надпісамі ўсё, нават тое, што, здавалася б, і не патрабуе нейкіх удакладненняў. На фрагменце аднаго са здымкаў з калекцыі Багданава, над пабудовай, ужо добра патрапанай у час ліпеньскай аперацыі 1917 года, напісана, што тут знаходзіцца кухня. Пабудова размяшчалася на схіле пагорка, дзе цяпер стаіць касцёл, з боку дарогі да каталіцкіх могілак.




Надпіс паведамляе, што бліндаж пабудавалі ў жніўні 1917 года.

### Сховішча ад абстрэлу і вайсковы шпіталь

Наступныя надпісы захаваліся да нашага часу. Яны ёсць на бліндажах пры дарозе на Чухны з боку Багданаўскай вуліцы ў Крэве. На адным надпіс «Schußsicher» – сховішча ад абстрэлу. У астатніх надпісах знаходзім інфармацыю пра вайсковае падраздзяленне, якому бліндажы належалі.

На бліндажах у Бабіным Логу і Катлоўцы надпісы ўтрымліваюць не толькі інфармацыю аб падраздзяленні ці разліку, але і дату пабудовы. Напрыклад, красавік або жнівень 1917 года.

А вось своеасаблівы герб з надпісам «Henky's Stollen» – штольні (падвалы) Хенкі, – змешчаны на адным з бліндажоў, якія ў нас называюцца Чырвонымі (знаходзяцца пад Алешышкамі).

Крыж на гербе стаў для мясцовых падставай меркаваць, што тут знаходзілася ваенная лячэбная ўстанова. Хутчэй за ўсё, так яно і было, бо ў гісторыі 379-га стралковага палка пра яе згадваецца. Больш за тое, прозвішча палкавога ваеннага доктара сапраўды было Henky, як на тым надпісе на гербе.

### Нямецкія бліндажы спатрэбіліся ў барацьбе з... немцамі

У міжваенны час, калі нашы землі ўваходзілі ў склад Польшчы, урад перадаў нямецкія ўмацаванні ў распараджэнне ваеннага міністэрства. Ваенныя зрабілі надпісы «Вайсковая ўласнасць. Разбіраць забаронена!»

Умацаванні меркавалі выкарыстоўваць у час магчымых баявых дзеянняў у будучым. Так яно і атрымалася: у час Другой сусветнай вайны нямецкія бліндажы вельмі спатрэбіліся падпольным фарміраванням польскай Арміі Краёвай у барацьбе з тымі ж немцамі.

**Аляксандр КАМІНСКІ,**
**Крэва.**
**Фотаздымкі забяспечаныя аўтарам.**

● КАЛЯНДАР

**7 СНЕЖНЯ**

**1824.** Нарадзіўся **Юльян Бакшанскі** (маёнтак Тупальшчына, цяпер Смаргонскі раён), удзельнік вызваленчага руху, камандзір паўстанцкага атрада ў 1863 годзе, публіцыст.

**1921.** У Заходняй Беларусі ў Радашкавічах заснаванае Таварыства Беларускай Школы (дзейнічала да 1937 г.).

**8 СНЕЖНЯ**

**1432.** Пад Ашмянамі адбылася бітва паміж вялікімі князямі Свідрыгайлам і Жыгімонтам. Загінула больш за 10 тысяч чалавек.

**9 СНЕЖНЯ**

**1891.** Нарадзіўся **Максім Багдановіч** (г. Мінск), паэт, перакладчык, крытык, класік беларускай літаратуры. У 1991 годзе ў Траецкім прадмесці ў Мінску адкрыўся Літаратурны музей Максіма Багдановіча.

**1973.** 45 гадоў назад у Вільні памёр **Янка Шутовіч**, грамадска-культурны дзеяч, выдавец, літаратуразнаўца, вязень савецкіх канцлагераў. Нарадзіўся 24 студзеня 1904 года ў вёсцы Шутавічы, цяпер Смаргонскі раён. Пахаваны ў Павільнісе (цяпер Літва).

**10 СНЕЖНЯ**

**Сусветны дзень Дэкларацыі правоў чалавека.**

**80 гадоў** з дня нараджэння **Анатоля Белага** (1939 – 2011), беларускага грамадска-культурнага дзеяча, мастацтвазнаўца, калекцыянера, пісьменніка. Скончыў БДУ. Працаваў вучоным сакратаром музея Вялікай Айчыннай вайны, быў першым дырэктарам мемарыяльных комплексаў «Хатынь» і «Курган Славы». Заснавальнік і старшыня грамадска-асветніцкага клуба «Спадчына». Сумесна з яго сябрамі ў 1985 годзе выступіў ініцыятарам звароту ў ЦК КПБ, Саўмін БССР і ВС БССР аб ушанаванні 125-х угодкаў паўстання 1863 года пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Адзін з прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі, якія падпісалі ліст у ЦК КПСС аб стане беларускай мовы і культуры ў Беларусі.

**1865.** Расійскі царскі ўрад забараніў асобам каталіцкага веравызнання і «польскага паходжання» купляць і арандаваць зямлю на Беларусі.

**1870.** Нарадзіўся **Фердынанд Рушчыц** (маёнтак Багданава, цяпер Валожынскі раён), польскі і беларускі мастак, педагог, тэатральны дэкаратар.

**1918.** 100 гадоў назад бальшавіцкія войскі ўвайшлі ў пакінуты немцамі Мінск.

**1945.** У Рэгенсбургу (Германія) адкрылася беларуская гімназія імя Янкі Купалы (дырэктар Аляксандр Орса).

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Круглы стол: «Ката падчас адлову

## Што трэба рабіць, каб скараціць колькасць бадзяжных

**Як зрабіць так, каб не было небяспекі ад бадзяжных жывёл і каб не дапускаць негуманных адносінаў на іх? Адначасова два правы сутыкнуліся ў гэтым пытанні. З аднаго боку, мы маем права на гуманнасць да жывёл. Але бадзяжныя жывёлы – пераносчыкі хвароб і паразітаў.**




Удзельнікі круглага стала абмяркоўваюць праблему бадзяжных жывёл.

МАЛАДЗЕЧНА
ВАЛОЖЫН

У той жа час, наколькі гуманна забіваць катоў і сабак? Магчыма, стэрылізацыя і вакцынацыя бадзяжных жывёл змогуць выправіць сітуацыю? Які спосаб задаволіць адначасова і правы людзей на бяспеку і здароўе, і правы на гуманныя адносіны да жывёл?

Паразважаць пра тое, як вырашыць гэтыя праблемы, мы запрасілі жыхароў нашага рэгіёна на круглы стол «Мы маем права на гуманнасць да жывёл».

У абмеркаванні ўдзельнічалі маладзечанка **Святлана Булкіна**, ветэрынарны доктар клінікі «Ветдапамога». У клініцы яна дапамагае бадзяжным жывёлам, ільготна стэрылізуе іх. Хоча, каб у Маладзечне нарэшце з'явіўся пункт перытрымкі катоў і сабак. **Алена** і **Ігар Крэйнісы** з Валожыншчыны трымаюць «Зоагатэль», дзе займаюцца перытрымкай жывёл. Таксама дапамагаюць бадзяжным катам і сабакам, лечаць іх, знаходзяць гаспадароў. Часта за мяжой. **Ларыса Трафімава** з Маладзечна займаецца валанцёрствам амаль 20 гадоў. Яна марыць, каб безгаспадарных жывёл перасталі забіваць на вуліцах.

### Як ставяцца да праблемы бадзяжных жывёл

**Ларыса Трафімава:**

– Праблемай стала займацца ад 2000 года. Вярталіся дадому, камунальная служба якраз адлоўлівала жывёл. Ката, якога злавілі, забілі на нашых вачах. Пасля гэтага стала карміць жывёл ля адной з крам, вяла картатэку – у ёй было прыкладна 360 жывёл. Потым пераехала ў іншую кватэру.

У валанцёрстве мне дапамагае сын, удзельнічаюць муж і сябры, акружаюць тыя, хто разумее праблему бадзяжных жывёл. Мужчын гэта праблема таксама хвалюе, толькі дзеляцца на сабачнікаў і кашатнікаў.



Алена Крэйніс.



Ігар Крэйніс.



Святлана Булкіна.



Зоя Хруцкая, мадэратар.

Дрэнна, калі ідзе па вуліцы чатырохгадовы хлопчык, штурхае ката нагамі, кажа «псік». Дрэнна, калі пасля забітага падчас адлову ката шасцігадовая дзяўчынка пытаецца ў маці: «Калі я пайду на вуліцу, мяне таксама заб'юць?» Каты не ўваходзяць у групу небяспечных жывёл, імі лічацца сабакі. Катоў варта вакцынаваць, стэрылізаваць і выпускаць у прыроду.

Адзін з камунальных работнікаў расказваў мне, што пасля адлову жывёл кідаюць у ямы Бекары. Але час ад часу туды трапляюць і жывыя, і яны ядуць адзін аднаго.

> Даведка «РГ»:
> Ямы Бекары – біятэрмічныя ямы, у якія загружаюць трупы жывёл. Для абеззаражвання іх засыпаюць каўстычнай содай.

У ЗША жорсткае абыходжанне з жывёламі адносіцца да цяжкага злачынства і караецца зняволеннем. У Германіі абарона жывёл прапісаная ў канстытуцыі. Нават у Ватыкане ў сабак прызналі існаванне душы.

**Алена Крэйніс:**

– У нас сямейны бізнес у вёсцы Алешчаняты, што на Валожыншчыне. Займаемся перытрымкай жывёл, лечым, даглядаем, знаходзім гаспадароў.

Аднаго з нашых гадаванцаў – Сэфа – людзі злавілі, бо падумалі, што воўк. Заматалі скотчам галаву і лапы. Высветлілася, што гэта сабака, не шалёны, вельмі ласкавы. Цяпер у Сэфы асобны вальер.

У прамзоне Мінска знайшлі лысага сабаку Цімура, у драпінах і шрамах, у жудасным стане. Цяпер ён цалкам здаровы. Але ж яго спакойна маглі забіць камунальныя службы.

З юрыдычнага пункту гледжання, любы сабака ці кот – уласнасць, рухомая маёмасць. Калі прапаў сабака – вінаватая, не дагледзела. Але чаму «Камунальнік» бярэ на сябе права распараджацца маёй маёмасцю? Сабакі бываюць вельмі дарагія.

У нас ёсць пудзель, чэмпіён Польшчы, Расіі, некалькі разоў Беларусі. Прыязджаем на спаборніцтвы, ён абараняе гонар краіны. Сабака з нашымі рэгаліямі каштуе ад пяці тысяч еўра, ён застрахаваны. Пытанне да «Камунальніка», калі яны забіваюць усіх, то хто аплаціць шкоду, забіўшы майго пудзеля?

Нядаўна ў Мінску ў пад'ездзе дзяўчынку пакусаў пацук. Давайце заб'ем усіх кошак – і людзей пачнуць кусаць пацукі.

У Парыжы таксама

---

Прадстаўнік «Камунальніка» на круглым стале прысутнічаць не змог, але выказаў сваю пазіцыю перад сустрэчай. Ветэрынарны фельчар спецаўтагаспадаркі УП «Камунальнік» **Анатоль Барановіч** з бадзяжнымі жывёламі сустракаецца часта. Яго пазіцыю на пачатку круглага стала мы агучылі ўдзельнікам сустрэчы.

### Ці існуе праблема бадзяжных жывёл

– Такіх жывёл адлоўліваюць, каб папярэдзіць распаўсюджванне хвароб, напрыклад, стрыгучага лішая ці шаленства. Пару тыдняў таму па Вялікім Гасцінцы знайшлі ката, ён пакусаў чалавека, экспертыза пацвердзіла шаленства. У летніку «Даманова» таксама нядаўна быў падобны выпадак. Мы не вядзём улік, колькі бадзяжных жывёл на вуліцы, бо ў горадзе шмат прыватнага сектару. Летась адлавілі 800 катоў і 600 сабак.

### Ці падтрымлівае працу валанцёраў

– Валанцёры прапаноўваюць проста стэрылізаваць жывёл. Але тыя ж хваробы кошкі і сабакі працягваюць пераносіць, а яшчэ і пладзяцца. Пасля стэрылізацыі жывёл выпускаюць, яны жывуць па падвалах. Пераносяць блох. Людзі пастаянна скардзяцца ў Цэнтр гігіены, што не зайсці ў падвал, кусаюць блохі. Тыя прапаноўваюць спачатку адлавіць катоў.

Было б добра, каб пытанне вырашылася да канца і стварылі пункт, адкуль жывёл дакладна забіраюць. Каб сам жыў у прыватным доме, з задавальненнем бы завёў жывёлу.

### Як вырашаюць праблему бадзяжных жывёл

– Выязджаем па графіку на адлоў. Ловім у тых месцах, дзе няма людзей. Сядзіць жывёла здаровая, але ўжо заўтра можа захварэць. Часам пародзістых не бяром. Хаця, згодна з «Правіламі ўтрымання дамашніх сабак, катоў, а таксама адлову бадзяжных жывёл у населеных пунктах», калі жывёла мае ашыйнік, дагледжаная, але знаходзіцца на вуліцы без гаспадара, яе трэба адлавіць.

Тых, каго адлавілі, у клеткі, што ёсць за горадам, завозім рэдка. Няма брыгады, каб карміць і даглядаць там за імі. Таму цяпер у клетках ніхто не жыве. Калі адлавілі здаровую жывёлу, вязём у гарадскую ветстанцыю, там шукаюць, каму аддаць сабаку ці ката.

# забілі на нашых вачах»
# жывёл




Фота vk.com/public12817212.

Любы наведнік «Ветдапамогі» можа дапамагчы ў стэрылізацыі бадзяжных жывёл.



Аксана Ярашонак, мадэратар.



Ларыса Трафімава.

была праблема з бадзяжнымі жывёламі. Французы ішлі па шляху знішчэння катоў, а атрымалі эпідэмію грызуноў. А яны ж пераносяць чуму і халеру.

Кошку дастаткова стэрылізаваць, вакцынаваць і вынесці ў падвал.

**Ігар Крэйніс:**

– Вернемся да пацукоў. Ад іх яшчэ больш гадасці будзе, чым ад катоў. І блохі, і кляшчы, шаленства, чума, халера. Для кантролю папуляцыі кошак ці сабак трэба толькі стэрылізацыя. Ці каб гаспадары не выпускалі іх на «самавыгул», пасля якога яны зацяжараць.

Быў выпадак, збегла кошка, нарадзіла ў падвале, выкарміла кацянят, яе пусцілі дадому, а дзяцей пакінулі. І тыя сталі дзікімі.

Мы звярталіся на буйныя прадпрыемствы, бо на кожным з іх ёсць бадзяжныя каты, каб дапамаглі грашыма – хаця б па дзесяць капеек далі, – і вывалілі ката і прынеслі на аперацыю. Адмовіліся, нікому гэта не трэба.

**Святлана Булкіна:**

– Я дапамагаю стэрылізацыяй. Але ў нас закон такі, калі жывёла без гаспадара на вуліцы, то што б на яе ні надзелі, сукенку ці залатыя завушніцы, усё роўна могуць забіць. У клініцы стэрылізуем, адразаем трохвугольнік вуха, пасля аперацыі жывёла становіцца ласкавай, ідзе да рук. Але шанцаў на жыццё пасля аперацыі камунальныя службы ім усё роўна не даюць. Мы стэрылізавалі ўсіх жывёл па Прытыцкага, цяпер нікога там няма. Наўрад ці разабралі, лічу, што забілі.

**По законе, калі адлоўліваюць жывёл, павінны страляць тымі прэпаратамі, якія ўсыпляюць, а не забіваюць. І ўтрымліваць такую жывёлу пяць дзён. Гэтага дастаткова, каб знайсці гаспадара ці ператрымку.**

А яшчэ няма памяшкання, у якім могуць знаходзіцца жывёлы. Валанцёры б прыносілі ежу, даглядалі за катамі і сабакамі.

Кажуць, забіваюць дзеля паляпшэння становішча з хваробамі. Што тычыцца шаленства, валасы ўстаюць дыба, колькі яго сёлета. Некалькі тыдняў таму прыйшла да мяне жанчына, сказала, што яе ноччу пакусаў кот. Патэлефанавала ў ветстанцыю, спыталася, што рабіць з жывёлай. Памяшкання для ізаляцыі няма, мне параілі аддаць ката гаспадарам. Але куды ж хворага. Кот праз дзень здох, шаленства пацвердзілі.

Разумею, што стандартны прытулак не варыянт, на яго ніхто не дасць грошай. Такі, дзе старыя і скалечаныя жывёлы знаходзяцца. Але хаця б перавалачны пункт павінны быць.

## Як можна дапамагчы бадзяжным жывёлам

**Святлана Булкіна:**

– Калі з'явіцца памяшканне, пасля пяці дзён ператрымкі жывёл можна ўсыпляць. Гэта не назапашвальны цэнтр. Думаю, працэнт усыплення будзе маленькі, за гэты час можна знайсці як мінімум ператрымку на месяц-два. Валанцёраў знойдзем. Ад горада патрэбныя толькі памяшканне і клеткі. Інфармацыя, грошы, дактары і валанцёры ёсць.

У нашай клініцы ў людзей ёсць магчымасць дапамагчы бадзяжным жывёлам. Мы паставілі скарбонкі, у якія збіраем грошы для бясплатнай стэрылізацыі катоў і сабак. Кожны можа даць ад 50 капеек да 10 рублёў і атрымаць так званую «дабралапку». Яе трэба кінуць у скарбонку. Для стэрылізацыі адной кошкі трэба 30 «дабралапак». Скарбонкі мы зрабілі празрыстымі, каб людзі бачылі, колькі засталося.

У любым выпадку жывёл будзе менш.

**Сёння мы стэрылізавалі цяжарную кошку, яна не нарадзіла васьмярых кацянят. Па вясне гэтыя кацяняты не народзяць яшчэ па восем. Пытанне часу. Год, два, дзесяць, і становішча палепшыцца.**

Чым больш жывёлы будуць нараджаць, тым больш работы будзе «Камунальніку». Лепш выдраць карэньчык, чым пастаянна зрываць лісцікі.

Таксама хацелі зрабіць цёплыя домікі для жывёл у горадзе. У Кобрыне яны ўжо ёсць. Ветстанцыя не дазволіла. Маўляў, будзе бруд. Не прасілі ў іх грошай, усё знайшлі, чаму ў Кобрыне можна, а тут не?

**Ларыса Трафімава:**

– Ад адной кошкі ў пірамідзе бывае 86 мільёнаў кацянят за дзесяць гадоў. Ад сабакі – 61 мільён шчанюкоў. Калі іх своечасова не стэрылізаваць.

**Алена Крэйніс:**

– Праблема, што ў нас няма пляцовак для выгулу. Была ў Нью-Ёрку. У цэнтры – спартыўная і дзіцячая пляцоўкі. І сабачая для выгулу побач. А ў нас абсталяванага выгулу няма.

**Ігар Крэйніс:**

– Улады збіраюць з людзей падаткі, варта нешта даваць замест. Пляцоўку для выгулу, пакеты для спаражненняў развесіць, як гэта ва ўсім цывілізаваным свеце робіцца. Ды і людзям варта не даваць гадаванцам гуляць адным. Прыйшлі на пляцоўку з сабакам, адшпілілі ланцужок, выпусцілі на абгароджаную пляцоўку. Пагуляў сабака, прышпілілі – ведзяце дадому. Не сам сабака павінны бегчы.

## Як пераклікаюцца правы людзей і жывёл

**Святлана Булкіна:**

– Пагледзела, як збіраюць грошы на лячэнне жывёл у Мінску. За тое, каб аднаму бадзяжнаму кацяняці ў клініцы выдалілі абодва вокі, людзі заплацілі 290 рублёў. Збіралі ў сацсетках з усяго свету па нітцы. Праз два дні вачніцы наліліся гноем. Пішу ім, навошта столькі грошай аддалі? Я і за 50 рублёў зрабіла б. Адказваюць, што не эканомяць на жывёлах. І ў чым сэнс такой эканоміі? Дзе гуманнасць?

**Алена Крэйніс:**

– Людзі чуллівыя, але яны не хочуць дапамагаць абстрактнаму фонду, жадаюць дапамагчы канкрэтнаму кацяняці. Думаю, што бясплатна ці танна – заўсёды дрэнна.

Яшчэ ў чалавека сабака вінаваты апрыёры, ён заўсёды злы. Мой пудзель выставачны, падстрыжаны, чысты, ад яго духамі французскімі пахне. Але для людзей гэта «злы, блыхасты сабака». Трэба зрабіць, каб ніхто не мог так казаць.

**Каб ніводны чалавек не зрабіў заўвагу вам, што ваш сабака пакінуў спаражненне на газоне, – нахіліся і падбяры.**

А яшчэ нашы дзеці павінны бачыць гуманнае стаўленне да жывёл. Варта тлумачыць і ім, і дарослым, як сябе паводзіць з жывёламі. Часта бачу, як бацькі кажуць дзіцяці «Не чапай сабаку, укусіць». Нельга даваць адмоўны досвед адразу. Варта сказаць «Не трэба чапаць рукамі толькі таму, што сабака прыгожы. Сабакі бываюць розныя». Сабака ніколі не вінаваты ў тым, што ўкусіў, вінаватыя людзі.

**Ігар Крэйніс:**

– Трэба пачынаць з малога, з адносінаў да жывёл. Яны потым праектуюцца на людзей.

Нядаўна чытаў артыкул пра тое, як дзяўчынцы з рэдкай хваробай адмовілі ў лячэнні за мяжой, аргументавалі словам «немэтазгодна». А каго тады лячыць? Як можна адмовіць дзіцяці? Таксама могуць сказаць і ў «Камунальніку»: «Немэтазгодна даваць пяцідзённую ператрымку». Яны бяруць на сябе права вырашаць, каму жыць, каму не. Дайце хаця б шанец. Разумею, калі ловяць забойцаў. Жывёлы ж нават абараніць сябе не могуць.

Лічу, сітуацыю з адловам не выправіць, пакуль не будзе рэгістрацыі і чыпавання ўсіх жывёл. Чыпам называюць электронную версію кацінага або сабачага дакумента. Калі ката ці сабаку адлавілі, па чыпе можна дазнацца, што жывёла вакцынаваная, стэрылізаваная. Калі «Камунальнік» забівае чыпаваную жывёлу, варта звярнуцца ў суд.

Па законе рэгістраваць жывёл павінны кожны. Але ў Валожыне на 10 тысяч насельніцтва зарэгістравана 18 сабак.

**Ларыса Трафімава:**

– Наконт катоў, на падставе пастановы Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі ад 29 снежня 2001 года «Аб парадку і дзейнасці арганізацый па адлове, адстрэле, утрыманні і эўтаназіі бадзяжных жывёл» павінны весціся ўлік адлоўленых жывёл. Катоў і сабак, што маюць жэтоны, трэба ўтрымліваць асобна. Любую жывёлу могуць аддаць чалавеку, калі ён прыйшоў з пашпартам і сказаў, што хоча забраць ката ці сабаку. Мяркую, трэба друкаваць аб'явы пра адлоў загадзя, напрыклад, што ад 1 да 10 снежня адлоў будзе ў гэтым раёне. А яшчэ варта не дапусціць гібелі жывёл у падвале.

Па законе, ад 1 лістапада 2016 года ў кожным падвале на адным акне павінны ўстанавіць дзверцы, якія свабодна адкрываюцца вонкі. Гэта для таго, каб жывёлы, што жывуць у падвале, маглі выйсці. Так праяўляецца права быць гуманнымі да жывёл.

Ёсць такі выраз для праверкі на чалавечнасць. Тры словы «забіць нельга лавіць». Пастаўце коску.

**Тацяна КАСЬЯН.**
**Фота аўтара.**

● ХАКЕЙ




Фота прэс-службы ХК «Дынама-Маладзечна».

Момант гульні.

## 1 снежня «Дынама-Маладзечна» выступала на выязным матчы ў Гомелі

МАЛАДЗЕЧНА

Матч у экстралізе «А» стаў паспяховым для гасцей. Гульня з «рысямі» скончылася з лікам 2:4.

Галы забілі **Яфіменка**, **Бялевіч**, **Кучкін** і **Амбражэйчык.**

Трэнер гасцей **Юры Файкоў** расказаў у інтэрв'ю прэс-службе ХК «Маладзечна»:

– У нас быў складаны выезд, адчувалася, што хлопцы крыху стаміліся. Але пры гэтым згулялі па плане – малайцы! Хачу падзякаваць нашым балельшчыкам, якія ў такое надвор'е прыехалі нас падтрымаць.

Трэнер гомельскай каманды **Алег Хмыль** патлумачыў:

– Змагаліся, але ў чарговы раз падвяла дысцыпліна – непатрэбныя выдаленні прывялі да пройгрышу. Сапернік рэалізаваў свае моманты, а мы, на жаль, не змаглі вярнуцца ў гульню.

Хакеіст **Станіслаў Кучкін** падзяліўся ўражаннямі:

– Серыя апынулася вельмі цяжкай, многія хлопцы прастудзіліся і гулялі хворыя, асобны дзякуй ім за гэта. З-за прастуды ў апошнім матчы не змог удзельнічаць **Багдан Зазон**, давялося гуляць у чатыры намінальныя абароны. Вельмі цяжка гуляць праз дзень, будучы на выездзе, але ўсё добра склалася, набілі дзявяць ачкоў у трох гульнях. Прыходзьце на бліжэйшыя матчы. Пастараемся працягнуць пераможную серыю і парадаваць балельшчыкаў прыгожай гульнёй.

**Паводле прэс-службы ХК «Дынама-Маладзечна».**




ЭКСТРАЛИГА "А"

| | КОМАНДА | И | Ш | О |
|---|---|---|---|---|
| 1 | ЮНОСТЬ | 28 | 108:39 | 70 |
| 2 | ШАХТЕР | 27 | 80:51 | 60 |
| 3 | НЕМАН | 26 | 72:43 | 56 |
| 4 | ДИНАМО | 31 | 97:67 | 51 |
| 5 | ГОМЕЛЬ | 26 | 61:61 | 40 |
| 6 | МЕТАЛЛУРГ | 27 | 49:90 | 25 |
| 7 | ЛИДА | 29 | 55:89 | 24 |
| 8 | БЕЛАРУСЬ U20 | 30 | 39:121 | 10 |

Ілюстрацыя hockey.by.

Турнірная табліца экстралігі А.

● МІНІ-ФУТБОЛ

## У міні-футболе перамагалі госці

СМАРГОНЬ
АШМЯНЫ
АСТРАВЕЦ

1 і 2 снежня разыгралі другі тур чэмпіянату Гродзеншчыны па міні-футболе.

У Ашмянах мясцовая каманда прыняла каманду «Масты». «Ашмяны» прайгралі з лікам 5:7.

Смаргонцы прымалі слонімскі «Фарсаж». Госці перамаглі з лікам 5:8.

Пазмагацца з астраўчанамі прыехала «Ліда». Госці перамаглі з лікам 5:7.

У групе «А» пасля другога тура лідзіруе «Ліда». «Астравец» – трэці, «Ашмяны» – пятыя, смаргонскія «Мядзведзі» – шостыя.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота lida.info.

Вілейскія пенсіянеры хацелі б пагуляць у хакей. Ды пакуль, кажуць, няма дзе.

# Ці гатовы рэгіён да сезона хакея і канькоў

ВІЛЕЙКА
АШМЯНЫ
СМАРГОНЬ

**Да нас у рэдакцыю звярнуўся жыхар Вілейкі пенсіянер Мікалай Хмыль. Мужчына заклапочаны тым, што ў Вілейцы пенсіянерам няма дзе сабрацца і пагуляць у хакей.**

### Дзе можна пагуляць у хакей у Вілейцы

– Сустракаю сваіх сяброў па спорце, па хакеі, – распавядае Мікалай. – Гаворым пра тое, што маглі б сабрацца пагуляць, ды ў Вілейцы няма для гэтага месца. Ужо зіма прыйшла, а ніхто займацца не хоча.

Па словах Мікалая, пенсіянераў-аматараў хакея сярод яго знаёмых чалавек 15-20. Летась усе яны цясніліся на «пятачку» каля Вілейскай школы-інтэрната.

– Зрабілі каток на гарадскім стадыёне, але туды з клюшкамі і шайбай ніхто не пусціць. Да таго ж гэта каток, а не хакейная каробка, – узрушаецца мужчына.

### Алег Гаўрышчук: ёсць вялікае жаданне – зладзьце гульню на катку

Па каментар мы звярнуліся да намесніка начальніка ўпраўлення аддзела адукацыі, спорту і турызму **Алега Гаўрышчука**.

– Каток на гарадскім стадыёне працуе ад першага снежня, – расказаў карэспандэнту нашай газеты Алег Георгіевіч. – Ёсць пракат канькоў. У першыя выхадныя снежня сабралася 70 чалавек. Калі ўстановіцца марознае надвор'е, будзем заліваць каткі на тэрыторыях школ.

Па словах Алега Гаўрышчука, хакейнай каробкі ў горадзе сапраўды няма. Для таго, каб пагуляць у хакей, вілейчане ездзяць у Лядовы палац у Маладзечна. У бліжэйшы час сітуацыя не зменіцца.

– Але калі ёсць такое вялікае жаданне, можна арганізавацца і пагуляць у хакей на гарадскім стадыёне, – падсумаваў Гаўрышчук.

### Хакейныя каробкі ёсць у Ашмянах

Як справы з гатоўнасцю да сезона канькоў у Ашмянах? У мясцовым упраўленні адукацыі, спорту і турызму нам распавялі, што ўжо залічваюць каткі ва ўсіх 15 школах Ашмяншчыны. Ёсць як пляцоўкі для масавага катання, так і адмысловыя каробкі для гульні ў хакей. З клюшкамі можна будзе выйсці на стадыёны школы №1, школы-інтэрната і на гарадскі каток.

На трэцяе снежня тры каткі залітыя ў Смаргоні: у мікрараёнах Заходні, Усходні і на вуліцы Гагарына. У бліжэйшыя дні пры адпаведным надвор'і зальюць каткі амаль ля ўсіх устаноў адукацыі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Вучні вілейскай школы №3 – лепшыя ў фізкультуры

ВІЛЕЙКА

Каманда вілейскіх вучняў заняла першае месца ў другім этапе рэспубліканскай алімпіяды па фізічнай культуры.

У каманду ўваходзілі адзінаццацікласнікі школы №3 **Дар'я Нікіткова**, **Laліта Харлап**, **Аляксей Шчарбанюк**, а таксама дзевяцікласнік гэтай школы **Дзяніс Сяргей**.

Рыхтавала каманду настаўніца фізічнай культуры **Таццяна Жук**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Мядзельскія школьнікі гулялі ў настольны тэніс

МЯДЗЕЛ

У рамках раённай спартакіяды сярод школьнікаў у Мядзельскім фізкультурна-аздараўленчым цэнтры правялі раённыя спаборніцтвы па настольным тэнісе.

Удзельнічалі дзеці 2004-2005 гадоў нараджэння і маладзейшыя. За званне лепшай змагаліся дзесяць камандаў з устаноў адукацыі Мядзельшчыны. У кожнай былі па два хлопчыкі і дзве дзяўчынкі.

У выніку трэцімі сталі прадстаўнікі Нарацкай сярэдняй школы №1, другое месца ў каманды са Сваткаўскага ВПК дзіцячы сад-сярэдняя школа імя М.Танка. Першае месца заняла каманда Крывіцкага ВПК дзіцячы сад-сярэдняя школа, у складзе якой гулялі **Уладзімір Раманоўскі**, **Лізавета Міхаленя**, **Сяргей Аксюта** і **Алеся Руднікавіч**.

**Паводле Мядзельскага райвыканкама.**

## Навучэнцы «Логаса» сталі лепшымі ў шахматах

ВІЛЕЙКА

Напрыканцы лістапада на Вілейшчыне правялі раённыя спаборніцтвы па шахматах.

Навучэнцы вілейскай гімназіі «Логас» занялі першыя месцы ў малодшай і сярэдняй узроставых групах.

У складзе камандаў былі **Ганна Чаравака**, **Раман Дубяга**, **Уладзіслаў Барысевіч**, **Раман Субач**, **Дзмітры Чайкоўскі**. Рыхтавалі шахматыстаў педагогі **Валянцін Макарэвіч** і **Юры Кузьміч**.

**Аддзел інфармацыі.**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

2. Густая салодкая маса з працёртых ягад або фруктаў, звараных з цукрам.
4. Гэта з'ява даўжэй цягнецца менавіта ў Антарктыдзе. Праўда, бывае толькі раз на год.
6. Металічны кружок, якім закладаюць адтуліну ў коміне, каб не выходзіла цёплае паветра.
7. Раней у Маладзечне гэта быў завод. Цяпер – самы ўсходні гандлёвы цэнтр.
10. Твор кінамастацтва для паказу на экране.
12. Адна з самых вядомых катаржніц гэтага вострава – Сонька «Залатая Ручка». Некаторыя мяркуюць, што яна схавала тут скарб, бо не магла вывезці на мацярык.
13. Шкілет галавы пазваночных і чалавека.
14. Чорнае мора спачатку было прэсным возерам. У канцы Ледавіковага перыяду рэзка ўзняўся ўзровень Сусветнага акіяна, і возера запоўнілася салёнай вадой. Змяніліся і жыхары. У новым моры з'явіліся і гэтыя насельнікі, на дзіва, абсалютна бяспечныя.
15. Рэгулярныя натуральныя і грашовыя плацяжы зямельнаму ўласніку за карыстанне зямлёй.
16. Разглядаючы цалкам, не звяртаючы ўвагі на дробязі.
20. Клапатлівыя, чулыя адносіны, прыхільнасць.
22. Погляды, выказванні, учынкі, якія супярэчаць агульнапрынятым нормам паводзін, устаноўленаму парадку.
24. Вусная народная творчасць.
25. У Бразіліі існуе футбольны стадыён, які называюць «вялікі нуль». Яго назва ўзнікла таму, што ён размешчаны ў асаблівым месцы. Што паслужыла прычынай назвы «вялікі нуль»?

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Пачатак спартыўных спаборніцтваў.
3. Жалезная дугападобная пласціна, якая прыбіваецца пад конскія капыты для засцярогі іх ад пашкоджання, а таксама для таго, каб пазбегнуць слізгацення.
5. Вялікая фізічная або душэўная мука.
8. Доля цэлага.
9. Адзін з карысных выкапняў Беларусі.
11. Андрэй Хадановіч: «Шакаладную цукерку Смачную хачу! За яе аддам ..., Поўную баршчу» .
13. Процілеглае слову «белы».
15. Насякомае сямейства пчаліных з тоўстым, укрытым густымі валаскамі целам.
17. Узвышэнне з пакатымі схіламі.
18. Орган слыху.
19. Творчае ўяўленне.
21. Фарба для пазногцяў.
23. Гара, пра якую анёл сказаў, што на яе вяршыні не трэба быць нікому. Яе назва – папулярнае мужчынскае імя сярод армян.
26. Адзенне ў выглядзе кашулі, зробленае з пераплеценых дробных металічных кольцаў, якім карысталіся даўней для засцярогі ад удараў халоднай зброяй.

## Адказы на крыжаванку з №48

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Жывіца. 3. Завод. 5. Гарант. 7. Гандбол. 10. Зелле. 14. Кухня. 15. Какава. 16. Чэмпіён. 17. Правіла. 18. Марс. 19. Піраміда. 21. Гімн. 23. Воланд. 25. Галіфэ.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Пупавіна. 2. Жолуд. 4. Піца. 6. Заданне. 8. Кубак. 9. Дах. 11. Полка. 12. Злучок. 13. Рух. 15. Клятва. 17. Поза. 20. Вёска. 21. Галава. 22. Свірка. 24. Плагіят.



## ● ГАРАСКОП 7-13 СНЕЖНЯ

**АВЕН.** Цяпер магчымыя праявы такіх эмоцый і якасцяў, як запал, сквапнасць, прага і празмернасць. Такі парыў у большай меры будзе тычыцца міжасобасных адносін, калі вы не зможаце стрымліваць сябе і свае жаданні. У гэты час узмацняецца ваш уплыў на іншых людзей.

**ЦЯЛЕЦ.** Чакайце сур'ёзных узрушэнняў. Першапачаткова гэта здасца вам катастрофай, але на самой справе наступныя вынікі вельмі парадуюць. Вы зможаце скінуць груз непатрэбнага цяжару, вызваліцца ад старых догмаў і адкрыць для сябе новы свет.

**БЛІЗНЯТЫ.** Цяпер у вас напружаны перыяд у жыцці, але адступаць нельга. Працягвайце старацца, прасоўвацца наперад, майце цярпенне і чакайце, калі гэтага патрабуе сітуацыя. Не ўсё даецца адразу, але рана ці позна ўсё ўдасца.

**РАК.** Вам будзе здавацца, што на вашу долю выпала ўжо занадта шмат розных клопатаў, пацешце сябе, дайце магчымасць супакоіцца. І тады ўсе цяжкасці не будуць здавацца такімі ўжо сур'ёзнымі.

**ЛЕЎ.** Ваша ўвага будзе накіравана на рашэнне матэрыяльных пытанняў. Старайцеся пазбягаць празмернай рызыкі і нерацыянальных фінансавых рашэнняў.

**ДЗЕВА.** Схільнасць да псіхічных нагрузак, непатрэбных хваляванняў можа выклікаць павышаны апетыт, прыхільнасць да салодкага ці курэння, а гэта ўжо шкодзіць здароўю, уздыму працаздольнасці і творчых сіл.

**ШАЛІ.** Упэўненасць ва ўласных сілах з кожным днём будзе расці. Адлюстраванне гэтага вы зможаце назіраць і ў павышэнні ўстойлівасці пры зносінах з іншымі людзьмі, і ўвогуле ў магчымасці адбіць любыя нападкі як з боку людзей, так і з боку неспрыяльных жыццёвых сітуацый.

**СКАРПІЁН.** Цяпер вашы думкі пастаянна занятыя дзелавымі і фінансавымі пытаннямі. Канцэнтрацыя намаганняў можа прывесці да поспеху і ўмацавання матэрыяльнага становішча, кар'ернага росту, дасягнення папулярнасці. Але эканомна расходуйце сілы і пазбягайце вялікіх трат.

**СТРАЛЕЦ.** Вельмі станоўчы перыяд. Гэты час дазваляе вам раскрыць свае ўнутраныя сілы, лепш зразумець сябе, свае імкненні і жаданні, развіць унутраную энергетыку, перамагчы ляноту. Цяпер можна лёгка пазбавіцца ад дэпрэсіі і няўпэўненасці ў сваіх уласных сілах, падняць самаацэнку, зразумець вялікія ісціны, якія так не проста нам даюцца.

**КАЗЯРОГ.** Для тых, хто жадае пашырыць свае фінансавыя магчымасці, надыходзіць добры час. Думайце шырока і не адмаўляйцеся ад варыянтаў, якія прапануюць вам гэтыя дні.

**ВАДАЛЕЙ.** Не перагружайце сардэчна-сасудзістую сістэму, не хвалюйцеся і правільна харчуйцеся. Калі ёсць неабходнасць у дыеце, то прытрымлівайцеся яе. Умацаваць арганізм у цэлым дапаможа дыхальная і звычайная гімнастыкі.

**РЫБЫ.** Уседзець на месцы вы проста не зможаце. Гэта перыяд прыемнага баўлення часу з сябрамі. Не адмаўляйце сабе ні ў чым. Магчымыя вандроўкі і паездкі, а таксама перамены ў дзейнасці.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 5 | | | 8 | 2 | |
| | 1 | 2 | 6 | | | | 7 | |
| | 6 | | | | 3 | 1 | | 9 |
| | | | 2 | 7 | 9 | 5 | | |
| | | | 8 | 1 | | | | 7 |
| | | | | | 4 | 9 | 8 | |
| 4 | | 6 | | | | 2 | | |
| | 8 | | | 3 | | | | 1 |
| | | | 9 | 5 | | | 4 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



Рэгіянальная газета. Rh.by
тэлетыдзень
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

## Чытайце праз тыдзень

- Чым адзначаліся гады Свінні для жыхароў рэгіёна? У 1995 – пачала выходзіць «Рэгіянальная газета». У 2007 – памяняліся нумары тэлефонаў «хуткай дапамогі», пажарнай, газавай службы, міліцыі. Падрабязней пра падзеі, якія адбываліся ў гарадах рэгіёна ў год Свінні, чытайце ў наступным нумары.



## Уваходзьце ў Новы год са старымі сябрамі



### Падпісацца на «РГ» можна:

- **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

- **на пошце**
- **праз паштальёна**
- **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 4 рублі 20 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 12 рублёў 50 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

## 8 снежня, субота

**Вецер:** паўднёва-ўсходні, 7-8 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВАЛОЖЫН**

Мінімальная тэмпература -15,8°С у 1980 годзе
Максімальная тэмпература +8,1°С у 2015 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 9,8 мм у 1999 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Вілейскія «Чарапашкі» адзначаюць 25-годдзе

ВІЛЕЙКА

**Свята пачнецца а 12-й гадзіне ў суботу, 8 снежня.**




Запрашаюць у актавую залу вілейскай гімназіі №2 па вуліцы Чапаева, 65.

Вас чакае тэматычная праграма «Песня пад зорным небам». Яна прысвечаная 25-годдзю турыстычнага клуба «Чарапашкі».

Увaход свабодны.

**Аддзел інфармацыі.**




Ілюстрацыя забяспечаная Маладзечанскім ГРАНС.

- ПРОСТА АНЕКДОТ

***

Лайфхак: калі вы стаміліся і моцна хочаце спаць, а ў вас дома вельмі шумныя дзеці, скажыце ім разбудзіць вас праз 30 хвілін, каб мы пачалі прыбіраць у доме. Яны зробяць літаральна ўсё, толькі б не разбудзіць вас.

***

– Доктар, няўжо выпіць чарачку перад ядой так ужо шкодна для здароўя? – Не, вядома. Толькі не ешце надта часта.

- ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Ці верыце вы ў варажбу, гараскопы і магію?



**Алёна Лагодзіч, бухгалтар, Маладзечна:**
– Стопрацэнтныя прадказанні і ў мяне былі, і ў знаёмых. Таму ў варажбу веру. Але пры ёе дапамозе не спрабавала нешта змяніць у жыцці. Ставіла мэты матэрыяльныя і маральныя. Практычна ўсе жаданні спраўдзіліся. Гараскопы на кожны дзень ніколі не адпавядалі рэчаіснасці.



**Наталля Таўгень, пекар, Маладзечна:**
– У варажбу не веру, а вось гараскоп часам чытаю. Але бывае такую лухту прадракаюць. Гадоў 20 таму сяброўка адвяла мяне да дзядулі-хіраманта. Сказаў, што дзяўчынкі ў мяне будуць. А я мама двух цудоўных сыночкаў. Разглядаў рукі, казаў пра працу з паперамі. Працую пекарам.



**Таіса Верацейка, пенсіянер, Маладзечна:**
– Заўважыла, што на характар чалавека ўплывае дата нараджэння, стыхія. Людзі агню і паветра – энергетычныя вампіры, сілкуюцца энергіяй ад людзей зямлі і вады. Прабіваюць біяполе. Ягчэ ёсць павер'е, што з нядобрымі думкамі можна мужа супам атруціць. А што падавіцца – факт.



**Кацярына Шукелойць, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**
– Я супраць варажбы, лічу, людзі толькі і чакаюць таго, што ім наваражылі. Хаця школьнікамі перапісвалі ў сшыткі розныя спосабы варажбы. Цікава было варажыць у калядную ноч. Абдымалі плот, калі цотная колькасць калоў, будзеш у пары, не – каханне ў наступным годзе знойдзе.



**Аляксандр Кучынскі, фельчар медыцынскага цэнтра, Смаргонь:**
– Не. Але ў дзяцінстве мяне ўкусіў сабака, сніліся кашмары, прачынаўся з крыкам і ў слязах. Бацькі завезлі да павітухі. Тая нешта рабіла і сказала, што прычына кашмараў – сабака. Пасля гэтага ўсё прайшло.



**Сяргей Буланаў, рабочы, Вілейка:**
– У прадказанні не веру, але веру ў магію. Гэта навука пачалася са старажытнасці, існуе і цяпер. Неяк і сам займаўся. Але веды трэба пастаянна развіваць, таму закінуў. Не веру і ў гараскопы. Людзі розныя. Можна вызначыць мінулае і сучаснае, будучыню наўрад ці – непрадказальная.



**Вікторыя Удальева, барбер, Маладзечна:**
– Веру ў нумаралогію. З мужам пазнаёміліся шэсць гадоў таму. Зразумела, ідэальна падыходзім, потым даведалася па даце нараджэння, што сумяшчальнасць 98%. Ягчэ веру ў Сусвет, калі правільна сфармулюеш запыт, ён дапаможа.

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№49 (1232) 7.12.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1249. Падпісана ў друк у 9.00 6.12.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты »Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.